# К КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 22 (284) 7 — 13 чэрвеня 1997 г. КОШТ 2000 РУБЛЁЎ

ІНФАРМУЕ







Je souhaite ainsi que ma soeur Bella et mon frère Piet – que cette exposition – la première dans ce pays – apporte toute la lumière de l'espoir et du bonheur.

le 5 juin 1997



***"Я спадзяюся, як і мая сястра Бэла і мой брат Піт, праз гэтую выставу, якая з'яўляецца першай у гэтай краіне, прынесці ўсім вам святло надзеі і шчасця".***

***Гэты аўтограф карэспандэнт нашай газеты атрымаў ад унучкі Марка Шагала пані Мерэт Меер-Грабер. Першы свой візіт на Беларусі госця зрабіла міністру культуры краіны Аляксандру Сасноўскаму, дзе і адбылося эксклюзіўнае інтэрв'ю.***


*Матэрыял чытайце на стар. 8.*











## АДСЯКАЮЧЫ НЕПАТРЭБНАЕ...

Апоўдні 3 чэрвеня ў святочнай абстаноўцы на тэрыторыі Мінскага маладзёжнага культурна-забаўляльнага цэнтра адбылося адкрыццё І Міжнароднага пленэру скульптуры памяці народнага мастака Беларусі Анатоля Анікейчыка.

Змрочнае, дажджлівае неба вымушана было саступіць сваё месца сонечнаму ззянню, каб не сапсаваць кепскім надвор'ем святочнага настрою прысутных.

А свята, сапраўды, адбылося. Прыйшлі сябры Анатоля Аляксандравіча, ягоныя родныя і блізкія, вучні і педагогі Беларускай акадэміі мастацтваў, дзе скульптар працяглы час загадваў кафедрай, архітэктары, журналісты, артысты і, безумоўна ж, мастакі. Шмат мастакоў.

Задаволены галоўны "вінаўнік" пленэру — ягоны фундатар — дырэктар Дзяржаўнага прадпрыемства "Маладзёжны культурна-забаўляльны цэнтр" пры Міністэрстве культуры Беларусі Аляксандр Унукаў, задаволеныя таксама ініцыятары акцыі — дырэктар Рэспубліканскага цэнтра пленэраў Саюза мастакоў Беларусі, скульптар Юрый Пятроў і мастацтвазнаўца Ларыса Бортнік; задаволеныя пятнаццаць удзельнікаў пленэру, якім на працягу месяца належыць "адсекчы ўсё непатрэбнае" ад камянёў-даламітаў, каб атрымаліся прыгожыя творы паркавай скульптуры — падарунак гораду...

Народныя мастакі Леанід Шчамялёў і Васіль Шаранговіч, старшыня Беларускага Саюза мастакоў Генадзь Буралкін, старшыня Беларускага таварыства дружбы і культурных сувязяў з замежнымі краінамі Арсен Ваніцкі, віцэ-прэзідэнт кампаніі "Нессі" Віктар Валошын і іншыя казалі пра наспелую патрэбу адкрыцця гэтага пленэру. І адначасова ноты шчымлівага суму гучалі таму, што вось ужо больш за восем гадоў мінула, як пайшоў ад нас Анатоль Аляксандравіч, цудоўны Скульптар, Педагог, Чалавек і Грамадзянін. Гэты пленэр, гаварылі яны, не толькі даніна любові і пашаны Мастаку, але і першы значны крок да таго, каб наш родны Мінск стаў яшчэ больш прыгожым.

Над перапланіроўкай і рэканструкцыяй парку працуе адзін з бліжэйшых сяброў А.Анікейчыка і ягоны суаўтар па многіх мемарыялах, архітэктар, лаўрэат Ленінскай прэміі Леанід Левін, які, дарэчы, выдаткаваў для арганізацыі пленэру пяць мільёнаў рублёў сваіх асабістых сродкаў.

... Сонца свяціла для ўсіх. І для ўсіх натхнёна спявалі і ігралі Уладзімір Ухцінскі, Леанід Нікольскі, Надзея Мікуліч і Леанід Клунны, ансамбль народнай музыкі і песні цэнтральнага Дома афіцэраў пад кіраўніцтвам Івана Раманчука і ўзорны фальклорны ансамбль "Жаваронычкі" пад кіраўніцтвам Наталлі Паяльскай.

Пленэр працягнецца да 5 ліпеня.

Добрага шляху, пленэр!

**Наш кар.**

№ 22 7 — 13 чэрвеня 1997 г.



# МЫ НЕ "ПАХУДЗЕЛІ"!

***Сёлета ў чэрвені Інстытуту мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя Кандрата Крапівы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі спаўняецца 40 гадоў. З дырэктарам Інстытута, доктарам гістарычных навук, членам-карэспандэнтам Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Міхаілам ПІЛІПЕНКАМ размаўляе наш карэспандэнт Серж МІНСКЕВІЧ.***

**— Сорак гадоў — гэта многа ці мала? Раскажыце, калі ласка, з чаго ўсё пачыналася?**

— Наш інстытут быў створаны ў чэрвені 1957 года. Каб зразумець, чаму гэта адбылося, трэба ведаць сітуацыю 50-х гадоў. Тады быў такі перыяд, калі Беларусь уступала ў новую стадыю развіцця, і на гэтай стадыі набывала больш актуальнае значэнне нацыянальная культура. Узнікла патрэба больш яе ведаць. Неабходна было вывучыць усе яе часткі, каб добра ў ёй арыентавацца, садзейнічаць яе развіццю. І было заўважана, што няма такой установы ў рэспубліцы, якая была б арыентавана на тое, каб вывучаць нацыянальную культуру ўсебакова. Вывучаліся толькі асобныя яе часткі ды і то ў розных установах. Пры Інстытуце гісторыі быў сектар этнаграфіі і фальклору, у Інстытуце літаратуры быў сектар мастацтва. Неабходна было аб'яднаць намаганні, каб праводзіць комплексныя даследаванні і вырашаць найгалоўнейшую задачу — падрыхтоўку кадраў у галіне вывучэння нацыянальнай культуры. Вось з такой мэтай быў створаны наш інстытут. А першым дырэктарам яго быў выдатны паэт, знаўца нашай нацыянальнай культуры акадэмік Пятро Глебка. Асабіста ён зрабіў вельмі шмат, каб інстытут запрацаваў. Прайшло 40 гадоў і цяпер можна сказаць, што стварэнне нашага інстытута было мудрым дзяржаўным рашэннем, таму што інстытут сапраўды паспяхова вырашыў адну за адной задачы, якія мелі нацыянальны маштаб. Было адкрыта вельмі шмат месцаў у аспірантуры і былі створаны адзін за другім аддзелы. Цяпер у нас дзесяць аддзелаў, якія ахопліваюць усе часткі нацыянальнай культуры, прытым як культуры прафесійнай, гэтак і непрафесійнай. Трэба сказаць, што непрафесійная культура Беларусі вельмі багатая, адна з самых багатых у свеце. У другіх, больш развітых краінах не захавалася такой культуры. А прафесійная культура мае глыбокія традыцыі, яна атрымала вялікае развіццё ў XIX і асабліва ў XX стагоддзях. Гэта ўсё трэба было вывучыць, даследаваць, зразумець, выявіць гэтае багацце, каб яно выкарыстоўвалася ў грамадскім жыцці.

У нас высокакваліфікаваны калектыў. Гэта адзін з буйнейшых інстытутаў гуманітарнага профілю. Тут працуе больш за сто чалавек. Дваццаць два дактары навук. Інстытут па колькасці дактароў адзін з лідэраў ва ўсёй акадэміі. Гэта цудоўна, што нацыянальную культуру вывучаюць такія кваліфікаваныя кадры.

**— Я чуў, што ў вас маецца свой доктарскі савет.**

— Дый не адзін. Два доктарскія саветы. Адзін па мастацтвазнаўстве, там абараняюцца кандыдацкія і доктарскія дысертацыі па тэатральным мастацтве, па кіна- і тэлемастацтве, па выяўленчым, дэкаратыўна-прыкладным мастацтвах. А другі савет па этналогіі і фалькларыстыцы.

**— А калі доктарскія саветы пачалі дзейнічаць?**

— Раней у нас наогул не было гэтых саветаў. І дысертацыі абаранялі хто ў Маскве, хто ў Санкт-Пецярбургу. Ездзілі, стаялі ў чарзе. Было вельмі доўга, марудна. А потым, гадоў дзесяць таму, спачатку стварылі кандыдацкі савет і толькі два гады таму стварылі ўпершыню ў гісторыі Беларусі доктарскі савет. І ўжо абаронена адна доктарская дысертацыя па дэкаратыўна-прыкладным мастацтве Яўгенам Сахутам. Таксама 2 гады таму пачаў дзейнічаць другі савет па этналогіі і фалькларыстыцы. І ўжо абаронена дзве дысертацыі. Мы, стварыўшы гэтыя доктарскія саветы, узняліся на сусветны ўзровень. Я павінен сказаць, што даследаванні ў галіне этналогіі, фалькларыстыкі і мастацтвазнаўства ў нас на высокім узроўні, і нашыя спецыялісты вядомыя за межамі нашай краіны: у Маскве, Санкт-Пецярбургу, Варшаве.



**— Значыць, абарона дысертацыі ў нас настолькі ж прэстыжная, як і ў гэтых гарадах?!**

— Менавіта так, бо ў асноўным доктарскія дысертацыі прысвечаныя вывучэнню нацыянальнай культуры Беларусі, беларускага этнасу. Самыя грунтоўныя спецыялісты знаходзяцца менавіта ў нашым інстытуце. Яны самі хадзілі па гэтай зямлі, самі назіралі, чулі спевы і мову народа і самі былі творцамі гэтай культуры. Некаторыя супрацоўнікі інстытута яшчэ і мастакі. Нядаўна адзначалі 70-годдзе Леаніда Дробава, была выдатная выстава. Віктар Шматаў падрыхтаваў чарнобыльскую серыю работ. Увогуле я лічу, што галоўнае багацце інстытута — гэта людзі. 40-годдзе — спеласць інстытута. Супрацоўнікам нашага інстытута ўдалося выявіць, паказаць, сістэматызаваць, захаваць для нашчадкаў багацце нашай культуры. На працягу сарака гадоў выдадзена велізарная серыя фальклорных прац пад назвай "Беларуская народная творчасць", якая складаецца з 44-х тамоў. Кожны пісьменнік, мастак, настаўнік па беларускай мове, літаратуры, гісторыі, культуры заўсёды будзе звяртацца да гэтай крыніцы. І гэтая праца працягваецца. Я спадзяюся, калі інстытуту будзе спаўняцца 50 гадоў, то будзе ўжо 50 тамоў. Наш інстытут можа ганарыцца і створанай тут "Гісторыяй беларускага мастацтва" ў 6-ці тамах. Наколькі багатае тое выданне! Яно ацэнена вельмі высока, і калектыў, які працаваў над гэтым выданнем, атрымаў Дзяржаўную прэмію. На Беларусі шмат помнікаў культуры, архітэктуры, гісторыі. І ўсе гэтыя помнікі мы ведаем, вывучаем. Матэрыялы іх сістэматызаваны, і праца гэтая выдадзена ў 7-мі тамах. А выканаўцы таксама атрымалі Дзяржаўную прэмію. Можна казаць і пра нашых музыказнаўцаў. Зараз вельмі грунтоўна вывучаецца народная музыка. На гэтую тэму выдадзена цэлая серыя прац у Мінску і ў Маскве. Цяпер завяршаецца 4-томнае выданне "Музычны тэатр Беларусі". Яшчэ мы паставілі перад сабой задачу стварыць вялікую абагульняючую працу пад назвай "Беларусы".

**— А вось цікава, этап сучаснасці, менавіта апошніх гадоў, калі з'яўляюцца беларускія не толькі, так бы мовіць, этнакультурныя творы мастацтва, але і рок-культурныя, эстрадныя, гэта ж таксама часткі нацыянальнай культуры. Ці будзе гэты накірунак уключацца ў вашу вялікую абагульняючую працу?**

— Я думаю, так. Калі займаюцца вывучэннем старажытнай прафесійнай песні, музыкі сярэднявечча, то завяршаць вывучэнне ўвогуле беларускай музыкі павінна даследаванне і сучасных формаў музычнага мастацтва.

**— Якія перспектывы, на Вашу думку, ёсць у інстытута?**

— Ведаеце, калі казаць пра перспектывы, то межаў гэтым перспектывам няма. Усе складанасці ў нас звязаны з фінансамі. Фінансавыя праблемы перашкаджаюць нам весці работу. Хацелася б мець лепшае тэхнічнае забеспячэнне. Яшчэ ад фінансавання залежыць і папаўненне нашага інстытута моладдзю. Мы безумоўна звяртаем на гэта ўвагу, за апошнія гады ўзялі некалькі маладых таленавітых супрацоўнікаў. Але я лічу, што гэтага недастаткова. Трэба браць болей, але іх трэба зацікаўліваць фінансава і фінансаваць іх даследаванні. Так, мы рыхтуем кадры завочна, калі людзі займаюцца без адрыву ад асноўнага месца працы. Мы не маем магчымасці браць іх у вочную аспірантуру, але, у сувязі з гэтым, у нас абмежаванасці ў папаўненні інстытута маладымі спецыялістамі. Спадзяемся, што гэта часовыя цяжкасці. Таксама не ўсе працы мы можам апублікаваць. У нас дзесяць аддзелаў, ёсць нават аддзел антрапалогіі, які вывучае фізічнае аблічча беларусаў. Карацей кажучы, ствараецца многа навуковых прац, але ж па фінансавых прычынах не ўсе могуць быць апублікаваныя. Многа прац падрыхтавана, але яшчэ не пабачылі свет. Аднак аптымізму і энтузіязму ў нашых людзей шмат. Зарплата невялічкая, але цяга да гэтай працы ёсць, таму, хоць іншыя інстытуты значна "пахудзелі", наш інстытут захаваўся ў поўным складзе. За апошнія тры гады колькасць супрацоўнікаў не зменшылася.

**— Якія ёсць адметнасці ў вашага інстытута?**

— Адна з асаблівасцей нашага інстытута заключаецца ў тым, што пры ім існуе музей старажытнай нацыянальнай культуры. Шмат экспанатаў, такіх болей няма нідзе. Тут сабраныя унікальныя калекцыі і мастацкія рэчы, якія адносяцца і да прафесійнай культуры. І вельмі каштоўны збор іканапісу. Раней да царкоўнай культуры ставіліся адмоўна, але цяпер супрацоўнікі нашага інстытута на добраахвотных пачатках сабралі даволі значную калекцыю абразоў Беларусі. На жаль, не ўсё, што намі зроблена, апублікавана, але рана ці позна ўсе гэтыя вялікія працы будуць надрукаваны. Яны не прападуць. І мы будзем яшчэ болей ведаць пра нашую культуру.

**— Дзякуй за размову.**

# З НАГОДЫ ГАСТРОЛЬНАГА ЛЕТА

***Расказвае Вадзім ДАПКЮНАС, начальнік аддзела тэатраў Міністэрства культуры Беларусі.***



**— Спадар Вадзім, чаго і каго чакаць сталічным аматарам тэатральнага мастацтва летам да сябе на гастролі?**

— Зацішша я не абяцаю. Як вядома, толькі што скончыліся гастролі трупы Віцебскага акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа. А 6 чэрвеня распачаліся — Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра. Хачу падкрэсліць, што коласаўцы мелі поўны поспех. На суд гледачоў былі прадстаўлены дзве прэм'ерныя пастаноўкі: паводле аповесці Васіля Быкава "Пакахай мяне, салдацік" і Ж.Ануя "Жанна". Што датычыць гродзенцаў, дык, мяркую, гледачы застануцца задаволеныя: сёлета тэатр святкуе свой 50-гадовы юбілей і, улічваючы тое, што тэатр даўно не наведваў сталіцу, — прыхільнікаў тэатра, упэўнены, чакаюць творчыя адкрыцці і сюрпрызы. Калі працягнуць тэму ангажэмента, дык мушу падкрэсліць, што пасля шматгадовай гастрольнай маўклівасці падчас пераходу да рынкавых адносін і ў галіне культуры, мы імкнемся ўзнавіць былыя сувязі з даўнімі сябрамі з тэатраў розных краін. Дарэчы, спрабуем набыць і новых сяброў. Сталічныя тэатры таксама маюць вялікую гастрольную геаграфію. Да прыкладу, адбыліся гастролі Рускага акадэмічнага тэатра імя М.Горкага ў Віцебску, цяпер акцёры рыхтуюцца да паездкі ў Гродна. Брэсцкі тэатр драмы і музыкі збіраецца наладзіць абменныя гастролі з Гомельскім абласным драматычным тэатрам, які цяпер паспяхова завяршае гастрольны тур у Бранску. Не сакрэт, што творчае сяброўства тэатраў з Гомеля і Бранска дае магчымасць не толькі рэжысёрам здзейсніць сцэнічныя эксперыменты, але і гледачам пазнаёміцца з лепшымі спектаклямі абласных тэатраў-суседзяў. Гэтыя стасункі сімвалізуюць сяброўства дзвюх краін.

**— Лета — фестывальны час. Ці ўдзельнічаюць беларускія служыцелі Мельпамены ў вядомых еўрапейскіх фестывалях?**

— Безумоўна. Майстэрствам нашых акцёраў і рэжысёраў мы павінны ганарыцца. Паверце, гэта не проста гучныя словы! Я толькі што вярнуўся з тэатральнага фестывалю ў Торуне (Польшча), дзе меў магчымасць пазнаёміцца з прафесійнай творчасцю многіх еўрапейскіх тэатральных школ і заўважыць сучасныя тэндэнцыі развіцця тэатральнага мастацтва на прыкладзе дзевяці пастановак, і мне ёсць з чым параўноўваць. Я ўжо не кажу пра міжнародны фестываль "Славянскія тэатральныя сустрэчы-97" у Гомелі, дыпломы і прызы якога — таксама сведчанне майстэрства сучаснага беларускага тэатра.

Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы 9 чэрвеня ад'язджае на кароткачасовыя гастролі ў рамках міжнароднага фестывалю ў Іспанію. А тэатр імя М.Горкага плануе ўлетку ўзяць удзел у міжнародным фестывалі ў Мангейме (Нямеччына). Віцебскі тэатр "Лялька" таксама наведае Нямеччыну з гастрольнай паездкай. Берасцейцы ж рыхтуюцца да творчай вандроўкі ў Польшчу, а мінчукоў мяркуем парадаваць знаёмствам з творчасцю тэатра "Балтыйскі Дом" з Санкт-Пецярбурга. Дакладны тэрмін гастроляў пакуль не вызначаны, бо наперадзе шмат працы ў тых, каго ваш брат журналіст скептычна называе чынавенствам...

**Жанна ВАСАНСКАЯ**

**P.S.** На гэтым інфарматыўная частка гутаркі скончылася. Далей акрэслілася кола пытанняў, якія тычацца агульных праблем тэатральнага жыцця на Беларусі. Але пра гэта — у адным з наступных выпускаў "Культуры".

**Ж.В.**

# З РАЗМЕРКАВАННЕМ ПАШАНЦАВАЛА

***Акадэмія музыкі рыхтуецца да выпускных і ўступных экзаменаў — тут месяц чэрвень надзвычай напружаны і складаны. Вось што распавёў нам Міхаіл КАЗІНЕЦ — рэктар вышэйзгаданай установы.***

— З 1 па 20 чэрвеня ў Беларускай акадэміі музыкі пачынаюцца ўступныя экзамены, таксама ў чэрвені студэнты-выпускнікі здаюць дзяржаўныя выпускныя экзамены. Студэнты хвалююцца, мы таксама, і для гэтага ёсць падставы: прымаюць дзяржаўныя экзамены і свае выкладчыкі, і запрошана яшчэ прафесура з Масквы і Санкт-Пецярбурга.

**— Напэўна, падставы для хвалявання ёсць, але даўно вядома, што Акадэмія выпускае музыкантаў высокага ўзроўню. Прыгадаем, што ў свой час Беларускую акадэмію музыкі скончыў Андрэй Сікорскі — лаўрэат леташняга міжнароднага конкурсу "Фартэпіяна. Мінск-96".**

— А ў гэтым годзе яе заканчвае ўжо вельмі вядомы піяніст Юрый Бліноў. Высокі ўзровень нашых выпускнікоў адзначаўся заўсёды нашымі калегамі з Пецярбурга і Масквы, якія будуць членамі камісіі на дзяржаўных экзаменах. Выпуск жа гэтага года — надзвычай моцны.

**— Якое размеркаванне ў сёлетніх выпускнікоў?**

— Нашых былых студэнтаў забіраюць да сябе аркестры радыё і тэлебачання, дзяржаўны сімфанічны аркестр, запрашае на працу тэатр музкамедыі.

**— Можна лічыць, што з размеркаваннем выпускнікам ужо пашанцавала, няхай жа пашанцуе і на дзяржаўных экзаменах. Поспехаў вам!**

**Алена РЫГОРАВА**

# ЧАС ЗБІРАЦЦА Ў ОПЕРУ

***У тэатральным жыцці летнія месяцы лічацца "мёртвым сезонам". Гэта час, калі грамадскае і мастацкае жыццё на нейкі час прыпыняецца, каб восенню распачацца з новай сілай.***

***Але ў Беларускай оперы, здаецца, усё наадварот. Летам тут заўсёды назіраецца творчы ўздым — цікавыя спектаклі, прэм'еры... Сёлета пад заслону тэатральнага сезона оперная трупа рыхтуе пастаноўку неўміручай "Травіяты" Дж.Вердзі. Да гэтай падзеі яшчэ крыху больш за месяц, але і зараз тэатралам сумаваць не прыходзіцца.***

**7 чэрвеня**, у суботу, на сцэне тэатра пойдзе "Князь Ігар" А.Барадзіна. Гэта леташняя прэм'ера тэатра і, бадай, самы касавы спектакль Беларускай оперы. Што прываблівае ў ім гледачоў? Хтосьці ў захапленні ад адмысловай рэжысуры Юрыя Аляксандрава, камусьці дастаткова паслухаць з дзяцінства знаёмую музыку Барадзіна. А нехта, напэўна, прыходзіць толькі дзеля таго, каб пагладзець "Палавецкія скокі" — гэты "дзікі ўсходні балет", як называў яго сам кампазітар. Галоўныя партыі ў суботнім спектаклі выканаюць М.Майсеенка, Т.Цівунова, Н.Галеева, А.Гардынец, В.Кавальчук, С.Драбышэўскі. За дырыжорскім пультам будзе Міхаіл Сінькевіч.

У нядзелю вечарам (**8 чэрвеня**) адбудзецца яшчэ адзін спектакль з шэрагу новых работ тэатра. Гэта опера П.Масканьі "Сялянскі гонар". Пастаноўка оперы стала магчымай дзякуючы фінансавай дапамозе ўрада Італіі ў рамках правядзення мерапрыемстваў у сувязі з 50-годдзем з дня смерці П.Масканьі. Опера "Сялянскі гонар" паклала пачатак станаўленню новага стылю, які ўвайшоў у гісторыю музычнага тэатра пад назвай верызму (ад італьянскага слова vero — "праўдзівы"). Літаратурнай крыніцай для оперы паслужыла навела пісьменніка-верыста Дж.Вергі. У яе аснове — гісторыя кахання і здрады, гісторыя, якая адбываецца на Вялікдзень на плошчы адной з вёсак Сіцыліі. Пачуўшы гэту оперу, адзін італьянскі крытык сказаў: "Аб гэтай музыцы немагчыма разважаць і спрачацца; яна захоплівае і прымушае маўчаць". Спадзяюся, нашыя слухачы яшчэ ацэняць гэтую музыку і гэтую пастаноўку (музычны кіраўнік і дырыжор — М.Калядка, рэжысёр — В.Цюпа). У гэтую нядзелю ў спектаклі будуць заняты Н.Руднева (Сантуца), С.Франкоўскі (Турыду), Ю.Бастрыкаў (Альфіо).

**10 чэрвеня** на сцэне тэатра — незвычайны вечар з чароўнай назвай "Бенефіс". Бенефіцыянт — заслужаны артыст Беларусі Георгій Карант, які гэтымі днямі адзначае сваё 50-годдзе і 30-годдзе творчай дзейнасці. "Георгій Карант і зоркі Беларускай оперы" — менавіта так называецца гэта праграма. Хто ж такі Георгій Карант? — могуць спытацца недасведчаныя і нават дасведчаныя гледачы. І ў пэўным сэнсе будуць мець рацыю, бо імя гэтага артыста не сустрэнеш на гучнай афішы, яго не чуваць на радыё і тэлебачанні. Справа ў тым, што прафесія Г.Каранта крышачку "падпольная": ён — канцэртмайстар. І майстар сваёй справы. Сёння ў тэатры няма ніводнага опернага спектакля, дзе б не быў задзейнічаны Г.Карант. Ён рыхтуе са спевакамі іх партыі, выконвае сола ў аркестры. Што і казаць, калі сама Марыя Гулегіна, якую цяпе ведае ўвесь свет і нават Беларусь, запрасіла Г.Каранта да сябе ў Германію, каб ён дапамог ёй падрыхтаваць найскладанейшую партыю Абігайль з оперы Дж.Вердзі "Набука"! І вось 10-га чэрвеня зоркі беларускай оперы прыйдуць на гэты вечар, каб павіншаваць юбіляра і парадаваць яго сваімі выступленнямі. З чаго будзе складацца праграма? Пакуль дакладна невядома. Вядома толькі, што разам з салістамі Беларускай оперы ў вечары прыме ўдзел і зорка аперэты Наталля Гайда.

**12 чэрвеня** ў тэатры адзначаюць яшчэ адзін юбілей — 60-годдзе з дня нараджэння дырыжора Льва Ляха. Для свайго юбілейнага спектакля маэстра абраў "Пікавую даму" П.Чайкоўскага. Спектакль будзе паказаны ўсяго другі раз у гэтым тэатральным сезоне. Галоўныя партыі ў ім выканаюць Э.Пелагейчанка (Герман), Н.Кастэнка (Ліза), Н.Галеева (Графіня). А ўсім дзеяннем будзе кіраваць маэстра Леў Лях.

Такім чынам, нягледзячы на, здавалася б, нетэатральную летнюю пару, час збірацца ў оперу!

**Таццяна АЛЯКСАНДРАВА**

*На здымках:*
*Юрый Бастрыкаў у "Сялянскім гонары",*
*Эдуард Пелагейчанка ў "Пікавай даме".*





## УВЕРЦЮРА ДА ... З'ЕЗДА

У Саюзе кампазітараў зараз рыхтуюцца да чарговага з'езду, які адбудзецца па восені. Агульнавядома, што на з'ездзе саюза падсумоўваюцца творчыя набыткі за пэўны перыяд, вырашаюцца самыя надзённыя праблемы творцаў і, нарэшце, абіраецца новае кіраўніцтва. Сімвалічна тое, што ў гэты напружаны перадз'ездаўскі час зусім нядаўна ў СК прынятыя Алена Атрашкевіч, Уладзімір Саўчык, Радзівон Глебаў, Павел Яроменка, Надзея Юўчанка. Прозвішчы ноўпрынятых ужо даволі вядомыя ў стасунках з музычнай беларускай культурай. Газета "Культура" віншуе ноўпрынятых, а таксама віншуе Саюз кампазітараў з годным папаўненнем.

**А.Р.**

# АСПЕКТЫ РЭСТЫТУЦЫІ

***У чэрвені ў Мінску адбудзецца міжнародная канферэнцыя па вяртанні гістарычнай спадчыны Беларусі з замежжа. Адказны за правядзенне гэтай канферэнцыі — Скарынаўскі цэнтр, таму мы і звярнуліся з просьбай пракаментаваць маючую адбыцца канферэнцыю да дырэктара вышэйзгаданай установы Адама МАЛЬДЗІСА.***

**— Адам Восіпавіч, чым выклікана неабходнасць правядзення такой канферэнцыі?**

— Вяртанне нашай гістарычнай спадчыны, гістарычных беларускіх каштоўнасцей з іншых краін ужо даўно было для нас пытаннем надзвычай важным і балючым. Можна сказаць, што неабходнасць абмяркаваць яго з нашымі замежнымі калегамі наспела не сёння: нашы даследчыкі вельмі часта сутыкаюцца з рознымі праблемамі. Найперш гэта адбываецца тады, калі яны вымушаны выязджаць у пошуках патрэбнага дакумента ў архівы Вільні, Варшавы, Прагі. Вядома, такія паездкі заўсёды былі звязаны з пэўнымі цяжкасцямі, а на сённяшні дзень яны сталі яшчэ больш складанымі. Канферэнцыя ж мае на мэце альбо вярнуць на радзіму патрэбныя дакументы, альбо дамовіцца з нашымі замежнымі калегамі аб сумесным іх выкарыстанні. Мяркуецца, што адбудзецца канферэнцыя 18 чэрвеня і будзе доўжыцца да 20-га.

**— Асноўныя пытанні, якія будуць на ёй абмяркоўвацца?**

— Перадусім гэта — юрыдычныя аспекты рэстытуцыі, трэба ж юрыдычна абгрунтаваць абмен гістарычнымі каштоўнасцямі, прадстаўленне іх у дэпазіт, прадугледзець іх сумеснае экспанаванне.

**— Склад арганізацыйнага камітэта канферэнцыі?**

— Узначальвае аргкамітэт міністр культуры спадар Аляксандр Сасноўскі, уваходжу туды і я, як намеснік старшыні, таксама Галіна Алейнік, Ніна Мазай і іншыя.

**— Хто з Вашых калег прыедзе з замежжа?**

— На канферэнцыю запрошаны вучоныя з Украіны, Расіі, Польшчы і з іншых краін. Наогул, жадаючых удзельнічаць у канферэнцыі вельмі многа, і тут паўстае шэраг праблем, якія трэба вырашаць ужо цяпер і як мага хутчэй. Вядома ж, тых, хто прыедзе, трэба размясціць у гатэлі, забяспечыць харчаваннем, нават аплаціць дарогу. Уявіце, як гэта складана зрабіць сёння!

**— Уявіць няцяжка, цяжэй зразумець, адкуль можна ўзяць такія сродкі.**

— Канферэнцыя ладзіцца пад эгідай ЮНЕСКО, сродкі ўжо выдаткаваныя гэтай міжнароднай арганізацыяй, але як і ва ўсякай складанай справе, узнікае шмат праблем, якія не так лёгка вырашыць адразу. Наогул, настрой маю песімістычны! Напярэдадзе яшчэ столькі арганізацыйнай працы...

**— Тым не менш, мы жадаем вам поспеху ў такой патрэбнай для нашай дзяржавы справе!**

**Алена РЫГОРАВА**

# РОК ПЕРАД ВАКАЦЫЯМІ

Трыццаць тысяч за гадзіну сапраўднага рока — не надта высокую цану — мусяць заплаціць тыя, хто мае намер прыйсці на рок-фестываль "Цяжкі дзень". Канцэрт-фестываль пройдзе 26 чэрвеня ў Палацы спорту, у ім возьмуць удзел беларускія гурты "Тарнада", "Ляпіс Трубецкой", "НРМ", "Нейра-Дзюбель" і "Сектор Газа" з Расіі. Вядзе праграму жывая — ды яшчэ якая жывая! — легенда рок-FM-вяшчання Уладзімір Туз з "Радыё-Рокс". Але чаму такі падазрона нізкі кошт? Па-першае, на самой справе ён не такі ўжо і малы, бо канцэрт працягнецца ажно 5 гадзін, таму кошт білетаў (30 памножанае на 5) 150 тысяч рублёў. А па-другое — пэўна ж дзякуючы спонсарам і арганізатарам! У якасці спонсараў на гэты раз выступілі АП "Крыніца" і фірма "Кодак", якія, апрача ўсяго, падрыхтавалі для гледачоў сюрпрызы ды сувеніры. А арганізатары — добра вядомы мінчукам прадзюсерскі цэнтр "Класс-Клуб" і студыя "Джэф Крафт". Дарэчы, фестываль, які, зразумела, збярэ па большасці маладзёжную аўдыторыю, прымеркаваны да заканчэння навучальнага года і па сутнасці арганічна працягвае традыцыю прыгаданага "Класс-Клуба": тры гады запар ён праводзіць рокавы фэст на пачатку студэнцкага года пад назвай "Рок па вакацыях". Можна спадзявацца, што рок перад вакацыямі прагучыць не менш яскрава і дасць добры імпульс летняму адпачынку моладзі, ды і рок-аматарам любога ўзросту.

**Ігар КЛОКАЎ**

**П**АДЗЕІ
**П**РАБЛЕМЫ
**П**РАГРАМЫ
**П**РАЕКТЫ

**ЧЭРВЕНЬСКІ АРТ-ВІТРАЖ**

## КУЛЬТУРА ІНФАРМУЕ



які ўзнікае ў час выканання; у той гукавой энергетыцы, якая дае магчымасць "прамых" зносінаў з Найвышэйшым Пачаткам. Тады ж, калі выконваюць творцы ў іншых жанрах — узорах лірыкі — празрыстасць і ўзнёсласць набываюць амаль зрокавыя вобразы. Падобная інтэрпрэтацыя — сапраўднае майстэрства, але гэты ўзровень быў дасягнуты капэлай, вядома ж, не адразу.

Дзесяць гадоў таму, калі Людміла Яфімава прыйшла працаваць у капэлу як галоўны дырыжор — дарэчы, гэта быў выбар самога калектыву, — кардынальна перамянілася ўсё, пачынаючы з рэпертуару і заканчваючы складам са-

10 гадоў яшчэ да капэлы. І, вядома ж, цяпер, калі гэтая ідэя — ідэя вернасці сабе — стала не толькі яе ўласнай думкай, але і адметнай рысай капэлы. Мабыць, у гэтым сакрэт поспехаў калектыву ў апошнія гады? Дарэчы, гэта — адзін з неабходных складнікаў канкурэнтаздольнасці хору, для якой заўсёды патрэбна так многа зрабіць. Таму што прафесіяналізм — гэта не толькі тое, як хор спявае на канцэртах, гэта і тое, як ён рэпеціруе, гэта культура адносін у самых розных абставінах.

Вядома ж, поспех калектыву ў многім залежыць ад салістаў. З запрошанымі салістамі, па словах мастацкага кіраўніка, не заўсёды шанцуе. З пункту гледжання прафесійнага майстэрства — салісты опернага тэатра, якім часцей за ўсё даводзіцца

# ДЫРЫЖОР — ЖАНЧЫНА? І ГЭТА — ПЕРСОНА!



***Дзяржаўная акадэмічная харавая капэла імя Рыгора Шырмы сёння — адзін з вядучых харавых калектываў рэспублікі, якія добра ведаюць на радзіме, у Германіі, Іспаніі, Польшчы... Штогод — і сёлета таксама — чакаюць у Пецярбургу ў чэрвені на фестывалі "Белыя ночы".***

Цікаўнасць і здзіўленне выклікае заўсёдная гатоўнасць калектыву да працы над усё новымі і новымі, сур'ёзнымі творамі. Гэта, у першую чаргу — духоўная музыка, якая складае неад'емную частку рэпертуару капэлы. Цяжка пералічыць, напрыклад, усе рэквіемы, што гучалі ў яе выкананні: Моцарта, Вердзі, Берліёза, а таксама апошняя значная заваёва калектыву —рэквіем Дворжака, — незвычайная і складаная для выканання духоўная музыка.

І тое, над чым ідзе напружаная праца зараз, у гэты момант — "Усяночнае няспанне" Рахманінава, грандыёзнае адкрыццё духоўнай глыбіні, — мусіць, таксама выявіцца як сапраўднае адкрыццё. Трэба адзначыць, што існуе нейкая індывідуальная асаблівасць увасаблення духоўнай музыкі капэлай. Справа не толькі ў высокім прафесіяналізме, дакладнасці інтэрпрэтацыі аўтарскай ідэі, хаця ўсё гэта абавязкова прысутнічае, а ў тым адметным эмацыянальным настроі, лістаў хору. Тое, што ў першы год пасля гэтай змены некаторыя былыя ўдзельнікі пайшлі з калектыву, нікога не здзівіла, таму што новы галоўны дырыжор адразу папярэдзіла: нікога праганяць не буду, для каго будзе цяжка — няхай вырашаць самі.

Гэта азначала, што абыякавыя адосіны да працы адышлі ў мінулае, а вядучым прынцыпам назаўсёды стаў "зрабіць усё магчымае сёння". І так — кожнае выступленне, без падзелу на больш ці менш важныя. "Ніякіх заклікаў, ніякіх умоў. Не для залы, а для сябе — мы павінны заўсёды паважаць сябе як прафесіяналы". Імкненне паважаць сябе пры любых умовах — ці гэта не адзнака сапраўднага майстэрства? Для Людмілы Яфімавай прынцып — "не ісці супраць сябе", заставацца такой, якая ёсць, — заўсёды быў галоўны, яшчэ тады, калі яна прыйшла вучыцца ў Разанскае музычнае вучылішча — як гаворыць яна сама: "у мяне на руках быў толькі звычайны ключ, але не было ні басовага, ні скрыпічнага", і тады, калі паступала ў Кансерваторыю ў Пецярбург, а не ў Маскву, хаця ў апошняй яе чакалі, і тады, калі канчаткова выбрала для сябе дырыжорскую дзейнасць, але магла б стаць і спявачкай, і тады, калі ўпарта ўзнімала ўзровень камернага хору ў Мінскім музычным вучылішчы, дзе працавала выступаць з капэлай, маюць дастаткова высокі прафесійны ўзровень. Але часта яны ад'язджаюць ці хор на гастролях, і з гэтым звязаны пэўныя цяжкасці.

Бадай, гэта — не толькі выдаткі прафесіі, якая прадугледжвае "вандроўнае" жыццё. Агульная прыкмета часу — усё больш павялічваецца неабходнасць тым ці іншым чынам ад'язджаць з мэтай заробкаў, часцей — за кошт адпачынкаў. З такой праблемай сутыкаюцца сёння многія, ахопленыя сферай мастацтва. Так, музыкант сёння, па словах Людмілы Яфімавай, павінен быць "крыху звар'яцелым" чалавекам, таму што толькі гэтым можна растлумачыць жаданне займацца сваёй справай пры такіх матэрыяльных умовах. Самаадданасць у адносінах да справы — яшчэ адзін элемент поспеху капэлы імя Шырмы.

Але ёсць і тое, без чаго ніякі калектыў не здолее дасягнуць высокага ўзроўню: таленавіты галоўны дырыжор. І ў гэтым капэле пашанцавала, таму што характарнасць, тэхнічная аснашчанасць яе мастацкага кіраўніка не выклікае сумненняў. Як заўважыла замежная крытыка, "дырыжор — жанчына, але гэта — персона, на якую патрэбна глядзець як на асобу, у такой меры яна звяртае на сябе ўвагу", і з гэтым цяжка не пагадзіцца.

**Кацярына СЯДОВА**

# КАНЦЭНТРЫЧНЫ ПОШУК

Калі ў вас ёсць жаданне кінуцца ў вір эксперыментаў, дык наведайце галерэю сучаснага мастацтва "А.В." Тут адкрылася канцэптуальная выстава Аляксандра Родзіна "Эксперымент 6/2 + 1 (да медытатыўных эмбрыёнаў)". Па ўсім бачна, што мастак хварэе на неардынарнае мысленне. Да саміх прац не прычапіцца — усе стылістычна вытрыманыя, дыхаюць сваёй метафізікай. А што да тэкстаў, якія іх суправаджаюць... Тэксты ў дадатак да відарысу — гэта заўсёды небяспечна. А ў дадзеным выпадку нават іх назвы кульгаюць, дык што казаць пра ўласна Родзінскія запісы? Месцамі, праўда, яны досыць сімпатычныя, але толькі месцамі... Ім патрэбная жорсткая рэдактарская праўка. Чаму б Родзіну не папрасіць адрэдагаваць яго тэксты Алеся Разанава, якога я таксама сустрэў на гэтай выставе.

Спадабалася фуршэтная ідэя — замест традыцыйнай гарэлкі была выстаўлена вада "Мінская-4". Я б параіў і астатнім мастакам пераняць вопыт Родзіна і замест алкагольных напояў выстаўляць мінералку, малако, кефір, ліманад, сок, гарбату, каву і г.д. Тады на падобных экспазіцыях было б болей дзяцей, а дзеці, як вядома, наша будучыня.

**Зміцер ВОЛКАЎ**

# ...ЯНА І СЁННЯ АПЯКУЕЦЦА КОЖНЫМ З НАС...

***5 чэрвеня наша краіна зноў адзначыла дзень Еўфрасінні Полацкай. Наш карэспандэнт сустрэўся са Старшынёй Усебеларускага жаночага фонду святой Еўфрасінні Полацкай, паэткай Валянцінай КОЎТУН.***



**— Фонд Св.Еўфрасінні Полацкай існуе ўжо 4 гады. Якія набыткі за гэты час Вы лічыце найбольш значнымі?**

— Найперш — гэта заснаванне новага нацыянальнага свята, ужо шырока вядомага як агульнанародны Дзень Святой Еўфрасінні Полацкай. Гэта — і духоўна-асветніцкая праграма, якая праводзіцца Фондам з дня заснавання. Калі памятаеце, намі пастаянна наладжваліся навуковыя і творчыя сустрэчы, прысвечаныя жыццю і творчасці Ларысы Геніюш, — з выездамі ў Зэльву. У цэнтры нашай увагі таксама — мужная постаць Алаізы Пашкевіч (Цёткі). Фонд прысвяціў гэтай слыннай дзяячцы беларускага Адраджэння некалькі мерапрыемстваў. Гэта найперш — правядзенне рэспубліканскай канферэнцыі, прысвечанай Пашкевічанцы, у Шчучыне з адкрыццём помніка. І важна, што да такой годнай справы далучыліся многія сілы — улады Шчучына, Саюз пісьменнікаў, іншыя творчыя саюзы, Міністэрства культуры і Міністэрства навукі і адукацыі.

Што да гісторыі, то ў гэтым сэнсе мы ўсё болей актывізуем сваю дзейнасць. Прыкладам можа служыць заснаванне пры Фондзе Нацыянальна-гістарычнай асацыяцыі. Прэзентацыя асацыяцыі адбылася падчас правядзення Міжнароднай канферэнцыі "Нацыянальна-гістарычныя вытокі жаночага руху на Беларусі" і вечарыны, прысвечанай 120-м угодкам Цёткі. У мерапрыемствах прынялі ўдзел прадстаўнікі пасольстваў Балгарыі, Літвы, Эстоніі, Украіны.

**— Дарэчы, які статус Вашай арганізацыі?**

— Фонд Святой Еўфрасінні — першая ў Беларусі Міжнародная недзяржаўная жаночая арганізацыя, скіраваная на развіццё нацыянальнай культуры, навукі і асветы, умацаванне хрысціянскіх традыцый. Нашы аддзяленні — у Варшаве, Львове, Вільні, Таронта, дзе справы Фонду вядзе Раіса Жук-Грышкевіч. Па звестках Раісы Жук-Грышкевіч, Дзень Святой Еўфрасінні для беларускай эміграцыі ў Канадзе — своеасаблівае свята памяці, свята Бацькаўшчыны.

Ёсць у нашым статуце таксама пункт, што тычыцца абароны правоў жанчын, асабліва творчых прафесій.

**— І як ён ажыццяўляецца?**

— Па-першае, многія сябры нашага Фонду ўваходзяць у склад заснавальнікаў Беларускага Хельсінскага камітэта. Па-другое, у мінулым годзе намаганнямі Фонду пры ўдзеле Прадстаўніцтва ААН, жаночых арганізацый рэспублікі, гасцей з Украінскай жаночай Грамады, вядомых грамадскіх дзеячаў, юрыстаў і палітолагаў быў праведзены першы ў Беларусі Міжнародны кангрэс, прысвечаны абароне правоў жанчын у посттаталітарным грамадстве. Завяршыўся кангрэс уручэннем медаля Святой Еўфрасінні Полацкай пераможцам нашага Міжнароднага конкурсу "Жанчына года".

**— Дарэчы, колькі слоў пра гэты конкурс.**

— Праводзіцца ён з 1994 года, але паступова набывае міжнародны кшталт. Сведчаннем стала тое, што ў мінулым годзе медаль Святой Еўфрасінні атрымала добра вядомая на Беларусі ўкраінская паэтэса Ліна Кастэнка. Намінацый у конкурсе некалькі, таму жанчынамі года называюцца не толькі прадстаўніцы творчых саюзаў, але таксама педагогі, урачы, вучоныя, палітычныя дзеячы. Сярод іх можна назваць Стэфанію Станюту, Валянціну Гаявую, галоўнага афтальмолага Беларусі акадэміка Тамару Бірыч, рэктара Універсітэта культуры Ядвігу Грыгаровіч... Зрэшты, гэтай тэме можна прысвячаць асобныя матэрыялы. Мы будзем працягваць пачатую справу, пашыраючы кола нашай увагі, уводзячы ў жыццё новыя намінацыі. Тым больш, што да правядзення конкурсу далучаюцца прадстаўнікі многіх жаночых арганізацый, міністэрстваў, творчых суполак, дзяржаўных устаноў.

**— Як Фонд сёлета адзначае Дзень Еўфрасінні?**

— Радуе тое, што свята — гэта ўжо не толькі клопат Фонду — яго стваральніка, які надаў агульнанароднаму Дню Святой Еўфрасінні Полацкай пасутнасці дзяржаўнае значэнне і статус, вагомасць новай нацыянальнай традыцыі. З нашай лёгкай рукі ў Мінску і іншых гарадах праводзяцца Свята-Еўфрасіннеўскія чытанні, якія мы ўпершыню наладзілі яшчэ ў 1994 годзе. У верасні гэтага года чытанні, што рыхтуюцца намі ў супольнасці з іншымі жаночымі арганізацыямі, будуць прысвечаны 480-й гадавіне беларускага пісьменства. Але гэта — пазней. А цяпер Дню Святой Еўфрасінні прысвячаюцца масавыя паломніцтвы, культурна-асветніцкія праграмы, дабрачынныя акцыі. Акрамя гэтага, памяці прападобнай будзе прысвечана сумесна з Нацыянальным мастацкім музеем наладжаная выстава твораў маладой таленавітай мастачкі Наталлі Апіёк "Шляхамі Святой Еўфрасінні". Выстава адкрыецца 11 чэрвеня і стане лагічным працягам дзейнасці Фонду, які апякуецца таксама маладымі талентамі, выдаючы пуцёўкі ў шчаслівы плённы творчы шлях. У коле апекі і маральнай падтрымкі — аспіранты і маладыя паэты, мастакі, навучэнцы музычных вучылішчаў, мастацкіх ліцэяў як у Мінску, так і ў іншых гарадах.

**— Па ўсім бачна, што клопату ў Вас, Валянціна, як у прэзідэнта Фонду нямала. І ўсё ж — якія ўласныя набыткі і, калі можна — якія бліжэйшыя планы?**

— Шчаслівая тым, што нарэшце пастаўлена кропка на апошняй старонцы рамана "Крыж міласэрнасці". Радуе і тое, што дылогія ўбачыла свет у рубрыцы "Школьная бібліятэка". Праз некалькі месяцаў пабачыць свет падрыхтаваны Прадстаўніцтвам ААН нацыянальны даклад, прысвечаны становішчу жанчын Беларусі. У складзе аўтараў — і маё імя. Дакладней, мной напісана частка гістарычнага раздзела, прысвечанага развіццю жаночай гісторыі Беларусі ад Рагнеды і Еўфрасінні да 1917 года... Спадзяюся таксама, што змагу ў бліжэйшы час надрукаваць новы твор, пра які ўжо думаю некалькі гадоў. Так што пажадайце мне поспеху... І яшчэ. Упэўнена, Еўфрасіння бачыць сёння кожнага з нас, і кожнага любіць, і кожным апякуецца. Застаецца толькі зразумець, што зямля беларуская, зямля Святой Еўфрасінні, чакае ад нас веры — і вялікай працы на беларускай ніве харастваі свабоды! Важна не здрадзіць гэтай святой веры, не здрадзіць Беларусі!

**Вольга ФЯДЗЮШЫНА**

# ФІЛАРМОНІЯ Ў ЧЭРВЕНІ

## КАНЦЭРТНАЯ ЗАЛА

11-га — Вечарына памяці Станіслава Манюшкі, прысвечаная 125-годдзю з дня смерці. Дзяржаўная акадэмічная харавая капэла Беларусі імя Р.Шырмы. Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр Беларусі. Дырыжор — Ч.Грабоўскі. Салісты — М.Кабрас (сапрана), М.Ратайч (мецца-сапрана), П.Скалуба (тэнар), З.Кавальскі (барытон, Польшча), а таксама Т.Цыбульская (сапрана), Т.Варапай (мецца-сапрана), Р.Палішчук (тэнар), А.Кеда (бас).

У праграме: С.Манюшка — уверцюры, арыі, дуэты з опер; "Меса Вастрабрамская".

18-га — Канцэрт арганнай музыкі. К.Шараў. Музыказнаўца — В.Савіцкая. У праграме: Фінк — Дзевяць п'ес; Шуман — Дзве фугі; Гільман — Жалобны марш і песня святой Серафіны; Малітва; Сімфонія рэ-мінор.

20-га — Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр Беларусі. Дырыжор — Віктар Собалеў. Салістка — Ю.Стэфановіч (скрыпка). У праграме: Шыманоўскі, Сібеліус.

22-га — Мінскі аркестр "Няміга". Галоўны дырыжор — Г.Праватораў. Салісты — Л.Івашкоў (тэнар), П.Рыдыгер (барытон), З.Краўзэ (фартэпіяна, Польшча), С.Праваторава (скрыпка), У.Анісенка (чытанне). У праграме: А.Сонін — Другая сімфонія; Ф.Мендэльсон — Канцэрт для скрыпкі з аркестрам; З.Краўзэ — Канцэрт для фартэпіяна з аркестрам; С.Пракоф'еў — "Ода на заканчэнне вайны".



## ЗАЛА КАМЕРНАЙ МУЗЫКІ

9-га — канцэрт скрыпічнай музыкі. А.Маскаленка. Партыя фартэпіяна — А.Сікорскі. У праграме: Грыг, Эльгар, Крэйслер, Сен-Санс, Мендэльсон.

10-га — канцэрт камернай музыкі. А.Алоўнікаў (віяланчэль), Ю.Гільдзюк (фартэпіяна). У праграме: Бетховен.

12, 13-га — канцэрты арганнай музыкі. М.Малдаван (Украіна). У парграме: Бах, Відор, Вальтэр, Калнынь.

17-га — канцэрт камернай музыкі. У.Іваноў (кларнет), партыя фартэпіяна — Ж.Варламава. У праграме: Дэбюсі, Рэйнеке, Ванхаль, Рахманінаў.

19-га — канцэрт камернай музыкі. Р.Банучы (скрыпка), М.Раверэлі (фартэпіяна, Італія). У праграме: Тарціні, Даніцэці, Шуберт, Брамс. Канцэрт наладжаны пры дапамозе Амбасады Італіі ў Рэспубліцы Беларусь.

26-га — канцэрт камернай музыкі. Г.Анішчанка, А.Кісялёў, У.Сінькевіч (віяланчэль), партыя фартэпіяна — А.Зыль. У праграме: Бах, Бакерыні, Брэваль, Попер, Сен-Санс, Чайкоўскі, Кузняцоў.

# ПЕРШАЯ ПЯЦІГОДКА "САНОРУСА"

Камерны хор пад кіраўніцтвам Аляксея Шута, калектыў, якому ў гэтыя дні спаўняецца 5 гадоў, заўсёды знаходзіцца ў творчым пошуку і таму ўжо многа пасеў за час свайго існавання. Спачатку гэта быў толькі хор, але ўжо ў гэтай якасці калектыў хутка стаў вядомы не толькі ў нашай краіне, але і за яе межамі: у Германіі, Польшчы, Расіі, куды ён выязджаў на міжнародныя конкурсы. Але асноўная мэта "Санoруса" — стварэнне свайго "бачання" ўзораў беларускай музыкі, ці то адраджэнне старых, ці папулярызацыя ноўстворaных — падштурхнулі кіраўніка "Санoруса" Аляксея Шута звярнуцца да некалі традыцыйнай на Беларусі формы — капэлы, якая складаецца з хору і аркестра. Тады "Санорус" займеў сённяшні выгляд — зараз гэта "камерны хор і аркестр", які дзейнічае ва ўсіх сваіх праявах: і ў непарыўным адзінстве харыстаў і інструменталістаў, і — кожная частка самастойная. Але для таго, каб не заставацца аднолькавым, творчы калектыў павінен шукаць новыя формы выступленняў, рабіць для сябе цікавыя адкрыцці. Для "Сaноруса" такім адкрыццём стала творчасць маладой спявачкі, салісткі хору, дыпламанта конкурсу імя Ларысы Александроўскай Таццяны Пятровай, якая толькі ў гэтым годзе скончыла Беларускую акадэмію музыкі ў класе народнай артысткі Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Ірыны Шыкуновай. 2 чэрвеня ў камернай зале філармоніі адбыўся сапраўдны бенефіс Таццяны Пятровай з удзелам камернага хору і аркестра "Санорус". Канцэрт складаўся з дзвюх частак, першая з якіх прадставіла Пятрову як камерную спявачку, выканальніцу оперных арый і рамансаў з фартэпіяна, партыю якога выконвала дыпламант рэспубліканскага конкурсу Ірына Целяпнёва.

Другая частка канцэрта дала ўяўленне аб Пятровай як аб салістцы "Сaноруса", да якога далучыўся ў час выканання Месы Шуберта і саліст тэатра оперы Алег Гардынец.

Поспех гэтага канцэрта, здаецца, быў заканамерны, і хочацца пажадаць доўгага і цікавага творчага лёсу маладой спявачцы, калектыву, які мае ў сабе шмат яшчэ не раскрытых творчых магчымасцей.

**Кацярына СЯДОВА**

***Дні культуры Беларусі ў Польшчы. З сустрэч афіцыйных...***

# "ГЭТАЕ ПОЛЕ, ДЗЕ ПАТРЭБНА АКТЫЎНАСЦЬ І ПАЛЯКАЎ, І БЕЛАРУСАЎ, — ВЯЛІКАЕ..."

***... Некалькі гадзін заставалася да моманту афіцыйнага адкрыцця Дзён... Варшава ж, акунуўшыся ў панядзелак, нібы і не раздавала асаблівых дывідэндаў у выглядзе афіш на тэатральных тумбах з пазнакай беларускіх спектакляў і канцэртаў. Словам, нашай рэкламнай прадукцыі, бадай, мы нідзе і не бачылі, хіба што толькі ў гатэлях, дзе пасяліліся беларускія артысты і члены дэлегацыі. Дарэчы, менавіта гэтае пытанне — пра сціпласць папярэдняй інфармацыі аб маючай адбыцца падзеі — закранулі самі польскія журналісты на першай жа прэс-канферэнцыі... Прадстаўнік ПАГАРТа — Польскага артыстычнага агенцтва —растлумачыў, што фірма "Маэстра", на жаль, пачала інтэнсіўна расклейваць афішы ды плакаты толькі сёння з раніцы, у дзень адкрыцця Дзён культуры, хоць павінна была гэта зрабіць яшчэ 15 мая...***

***Але занепакоенасць тым, ці будуць запоўненыя канцэртныя залы, — а толькі зала Нацыянальнага тэатра оперы разлічана на дзве тысячы месцаў, — адышла, як кажуць, у нябыт пасля трыумфу балета "Страсці" ("Рагнеда"). Урэшце, варшавяне па вартасці ацанілі не толькі бліскучую пастаноўку Валянціна Елізар'ева, высакакласную трупу, але і музыку Андрэя Мдзівані, і дырыжорскае майстэрства Генадзя Праваторава...***

***Скажу шчыра, і наш камерны аркестр, і непаўторныя "Харошкі", і "Чысты голас" без перабольшання — таксама "залаты фонд" дзяржавы. У кулуарах, калі даводзілася разам з маімі калегамі журналістамі з Польшчы распытваць варшаўскую публіку пра ўражанні ад мастацтва Беларусі, мы чулі і ад арыстакратычных дам, і ад супермадэрновых юнакоў адзінадушнае: "высокае!", "таленавітае!". І яшчэ: "Мы ўбачылі Беларусь не праз шкло палітыкі, якая ніколі не бывае аб'ектыўнай, і вельмі рады, што ў нас такая цудоўная суседка!"...***

***А вось што сказаў у эксклюзіўным інтэрв'ю нашай газеце намеснік міністра культуры і мастацтва Польшчы пан Тадэвуш ПОЛЯК:***

**— Пан Поляк, як Вы ацэньваеце прайшоўшыя Дні культуры і што, на Вашу думку, яны прынеслі ў Польшчу?**

— Ацэнка вельмі высокая. Дні адкрыліся выставай В.Бялыніцкага-Бірулі і цудоўным спектаклем беларускага балета ў нашым Тэатры Велькім, і ўсё гэта было прынята публікай з вялікім энтузіязмам. Думаю, што і наступныя спатканні таксама будуць такога кшталту. Мы чакалі прэзентацыі беларускай культуры вельмі доўга: як падлічыў спадар Уладзімір Рылатка, Дні культуры Беларусі былі апошні раз у Польшчы 43 гады таму. Зразумела, адбываліся розныя, часам выпадковыя сустрэчы, але такога насычанага прадстаўніцтва не было ніколі. Спадзяюся, што цяпер нашы адносіны не дазволяць чакаць чарговай сустрэчы доўгія гады. У наступным годзе беларусы спаткаюцца ў сябе дома з польскай культурай, і гэтак па чарзе кожныя два гады. Увогуле вашу нацыянальную культуру тут сустракаюць добра і з высокай ацэнкай.

**— Ці абмяркоўвалася ўжо праграма Дзён польскай культуры, якія пройдуць у Беларусі?**

— Наступны год — гэта адначасова і 200-я ўгодкі з дня нараджэння Адама Міцкевіча, таму ў праграме Дзён культуры Польшчы будзе абавязкова прадстаўлены Міцкевіч. Мяркуецца, што ў Мінск паедзе і Пендэрэцкі са сваім аркестрам, і, напэўна, опера "Галька" або "Страшны двор". Але ўсё гэта яшчэ не дакладна. Зразумела, прывязем жывапіс — прынамсі, не меншую выставу, чым і сёлетняя беларуская.

**— Што да перспектываў — якія яны, апрача абмену Днямі культуры? Калі мы рыхтавалі спецыяльны польскамоўны нумар нашага штотыднёвіка "Культура" да гэтых Дзён, мы мелі намер даць пералік усіх нашых публікацый, прысвечаных польска-беларускім стасункам, але спіс аказаўся надта вялікім, так што нашы непасрэдныя ўзаемастасункі з польскай культурай — натуральныя і грунтоўныя. І ўсё ж, у якім напрамку яны маглі б пашырацца на ўзроўні дзяржаўным?**

— На маю думку, трэба пашыраць культурныя абмены па-за межамі класічнага погляду — тэатры, музеі і г.д. Бо існуе агромністае поле для ўзаемных кантактаў, дарэчы, таксама культурнае — гэта архітэктура, нават узяць могілкі, аб якіх таксама трэба клапаціцца. Гэтае поле, дзе патрэбна актыўнасць і палякаў і беларусаў, — вельмі вялікае, і яшчэ ёсць шмат чаго... Палякі цяпер нават не ведаюць пра сядзібу Агінскага, не ведаюць замкаў у Нясвіжы, Міры, Наваградку, дзе я, дарэчы, нарадзіўся, — нешта здарылася ў міжчассе. Але цяпер існуе незалежная Беларуская дзяржава, мяняюцца гістарычныя погляды і кантакты павінны пашырацца.



***Удакладняе першы намеснік міністра культуры Беларусі Уладзімір РЫЛАТКА:***

— Тыя дамоўленасці, якія ўжо існуюць паміж нашымі краінамі, пэўным чынам і акрэсліваюць перспектывы нашых адносін. Адна з самых цяжкіх, але і адказных спраў — гэта аднаўленне гісторыі. Музей Міцкевіча ў Навагрaдку — канкрэтны прыклад навуковага, мастацкага супрацоўніцтва. Вакол музея адразу пачалася праца, створаны сумесны фонд, ідзе музейны абмен.

— Другі прыклад, — працягвае Тадэвуш Поляк, — музей у Завоссі. Будынкі ўжо гатовыя, зробленыя вамі і зроблены на самой справе добра. А вось іх абсталяванне рыхтуе польскі бок, бо мы маем мэблю, прылады, хай не з сядзібы ў Завоссі, але з тых часоў, з таго гістарычнага перыяду. Хацелі б таксама ўдзельнічаць і ва ўтрыманні гэтага музея, гэтак жа як і музея Навагрaдскага. Калі разгорнецца дзейнасць фонду ў Крэве, то маем намер ахапіць увесь горад, бо там ёсць і кузня, і сінагога, і царква, і касцёл — усё старыя будынкі. Калі іх аднавіць, стварылася б гістарычная зона, вельмі цікавая беларусам, палякам, украінцам і літоўцам, бо некалі ў Рэчы Паспалітай усе яны жылі разам... Яшчэ прыклад — у Нясвіжы Міністэрствы культуры Беларусі і Польшчы сумесна стварылі Акадэмію, якая працуе ўжо трэці год, навучае, як трэба захоўваць агульную спадчыну, у прыватнасці ў галіне паркавай гаспадаркі, краявідаў, архітэктуры, могілак. Нясвіжская акадэмія — ужо вядомая ў свеце, прыязджаюць студэнты з Літвы, Расіі, Украіны, яна стала міжнароднай вучэльняй. Не так даўно было ўрачыстае ўручэнне дыпломаў выпускнікам, якое адбывалася ў прысутнасці старшыні Міжнароднага таварыства аховы помнікаў. Такім чынам, Акадэмія ўжо выйшла за межы Польшчы і Беларусі да Еўропы.

**— На Вашу думку, ці звязаныя паміж сабой праблемы аднаўлення і захавання помнікаў і развіцця турызму паміж нашымі дзяржавамі і ці справядліва такім чынам турызм уключаць у культурныя абмены?**

— Гэта няпростае пытанне. Гістарычныя аб'екты перш за ўсё трэба падрыхтаваць да наведвання турыстамі — па гаспадарчых, санітарных, камунікацыйных паказчыках. Да таго ж ёсць граніца — турысты не павінны стаяць у чарзе на граніцы. Можа, яны і пажадаюць прыехаць паглядзець на Беларусь. Але калі пачакаюць у чарзе на граніцы некалькі, а яшчэ горш — нават некалькі дзесяткаў гадзін, — дык гэта ўжо будзе не турызм. Дарэчы, некалі так было і ў нас. А ўвогуле, у вас ёсць, што паказваць, ёсць цікавыя помнікі, людзі і звычаі, кухня — і гэта таксама турызм...

**— Дзякуй, пан Поляк, за гутарку.**

**Людміла КРУШЫНСКАЯ**

*На здымку: старшыня Беларускага фонду культуры Уладзімір Гілеп, Тадэвуш Поляк з жонкай, кінарэжысёр Міхаіл Пташук.*

**Фота Юрыя ЦВЯТКОВА**

*Мінск — Варшава — Мінск*

# ЯНА РАТАВАЛА ШЭДЭЎРЫ



Споўнілася 90 гадоў з дня нараджэння Алены Васілеўны Аладавай, выдатнага музейшчыка, шчырага прапагандыста беларускага мастацтва, збіральніка калекцыі Нацыянальнага музея Рэспублікі Беларусь, мастацтвазнаўцы.

Я добра ведаў гэтую цудоўную жанчыну, нейкі час працаваў разам з ёю, калі яна шмат гадоў кіравала музеем. Менавіта дзякуючы ёй наш музей стаў трэцім па каштоўнасці калекцыі твораў пасля Траццякоўкі і Рускага музея былога СССР.

Ёй былі нададзены ганаровыя званні заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі і заслужанага дзеяча культуры Польшчы. Яна атрымала ордэн "Знак пашаны", ордэн Дружбы народаў. Але самай высокай узнагародай яе нястомнай дзейнасці стаў музей, які яна стварыла, з першакласным зборам рускай класікі, замежнага і беларускага мастацтва.

Дзякуючы велізарным намаганням А.Аладавай па вяртанні даваенных музейных фондаў, вывезеных у час вайны ў Германію, у 60-я гады з розных музеяў краіны пачалі паступаць даваенныя экспанаты.

А экспедыцыйная дзейнасць Алены Васілеўны? Гэта асобная размова. Скажу толькі, што дзякуючы ёй былі сістэматызаваны матэрыялы па культуры Заходняй Беларусі, а таксама Міншчыны і Гомельшчыны. Выяўленне, рэстаўрацыя, вывучэнне помнікаў садзейнічалі пашырэнню і паглыбленню пастаяннай экспазіцыі старажытнага мастацтва Беларусі і стварэнню спецыяльнага аддзела.

Выратаваныя А.Аладавай такія шэдэўры, як слуцкія паясы, іканастас XVII ст. з Шарашова, царскія вароты XVI ст., партрэты з Нясвіжскага замка, комплекс твораў XVII ст. з Гродна і многія іншыя, увайшлі ў залаты фонд культуры Беларусі.

Я ўжо не кажу пра тое, як А.Аладава "здабывала" для музея з прыватных калекцый першакласныя творы жывапісу і скульптуры, сярод якіх — палотны Бялыніцкага-Бірулі, Айвазоўскага, Левітана, Рэпіна, Шышкіна, Куінджы, Каровіна, Жукоўскага, Хруцкага і іншых.

Кажуць, што ўсё застаецца людзям. Гэта так. Усё, што зрабіла ў сваім жыцці Алена Васілеўна, засталося нам і застанецца нашым нашчадкам. А гэтая спадчына вельмі вялікая...

Думаю, што прыйшоў час надаць імя Алены Васілеўны Аладавай Нацыянальнаму мастацкаму музею Рэспублікі Беларусь, а на яе радзіме, у Пружанах, стварыць мемарыяльны музей.

*На здымку:*
*М.Савіцкі. Партрэт Алены Аладавай. Палатно, алей.*

# МАГІЧНЫЯ СНЫ УЛАДЗІМІРА САВІЧА

Выстава твораў Уладзіміра Савіча ў галерэі "Мастацтва" стала з'явай у інтэлектуальным жыцці Мінска. Адзначу адразу, што гэтая невялікая экспазіцыя для непадрыхтаванага гледача — не буквар, а сапраўдны "супрамат", у які ўвайсці не так і лёгка. Але калі ўжо ўвайшоў — выйсці адтуль цяжка.

Я пазнаёміўся з Валодзем дваццаць гадоў таму, калі ён бліскуча абараніў свой дыплом — ілюстрацыі да "Пінскай шляхты" В.Дуніна-Марцінкевіча. З тае пары шмат вады сцякло: Уладзімір, нібыта Антэй, які, падсілкаваўшыся сокамі роднай зямлі і наведаўшы Іспанію, Нямеччыну, Швейцарыю, Італію, Славакію, Фінляндыю, Грэцыю, Югаславію, стаў вельмі заўважнай постаццю на еўрапейскім мастацкім Алімпе.

Свет У.Савіча адмыслова дэкаратыўны і адначасова драматычны, канструктыўна зграбны, лагічны і бясконца шматстайны ў сваіх сэнсавых інтэрпрэтацыях. Ягоныя творы цяжка назваць цалкам абстрактнымі: яны канкрэтныя паводле перажыванняў, скрозь іхнія фармальна-пластычныя структуры даволі яскрава "прарастаюць" чалавечыя думкі, сумненні, развагі пра мінулае, пра далёкае і бліжняе, звязанае з легендамі і фальклорам роднай зямлі.

У яго ёсць творы сумныя і радасныя, эксцэнтрычныя і святочныя, спавядальна-мінорныя і настальгічныя. Мастак разважае пра тлум жыцця і нязменнасць законаў быцця, пра галоўнае і другаснае, пра яўнае і прыхаванае.

Ён ставарае своеасаблівыя колерава-пластычныя эквіваленты пэўнаму эмацыйнаму стану, настрою, перажыванню. Скрозь строгую логіку ці то геаметрычна жорсткіх, ці то фактурна мяккіх, "жывых" формаў, насычаных кантрастных колеравых паверхняў, яскрава бачнае светаадчуванне сучаснага чалавека з ягонай прагай зразумець свет і сябе ў гэтым свеце.

У.Савіч нібы балансуе на мяжы часоў, паняццяў і ўяўленняў. Ён узгадвае свае магічныя сны: утаймаванне кентаўра, выхад з шэрай мітусні, пошукі ў мінуўшчыне сваіх старажытных каранёў, блуканне па доўгіх, цудадзейных шляхах да маўклівай споведзі самому сабе...

Ён прадбачыць, "фатаграфуе" неспакой сваёй падсвядомасці, аб'ядноўвае таямнічыя пластычныя знакі ў сімвалічныя рады. Час ад часу, адсоўваючы заслону будзённасці, дэкларуе сувязь сваіх сімвалічных радоў з рэальнай альбо гістарычнай сучаснасцю. Вось тады і з'яўляюцца ягоныя "Легенда старога замка" альбо "Князь", "Сон зямлі" альбо "Курган-вежа". Альбо трывожна-барвовая "Чырвань". Альбо "Шэсце": гэта мы, адвечныя пілігрымы Лёсу, рухаемся па замкнёным коле Жыцця...

У.Савіч — мастак вельмі сур'ёзны, але ён адмаўляе тую вар'яцкую сур'ёзнасць, што прымушае людзей забывацца на фатум і космас, на нетрываласць свету і жыцця. Прывабнасць гульні ўяўлення і думкі непадуладная людзям, якія ўсур'ёз гуляюць у палітыкаў, прамоўцаў і кіраўнікоў.

Ля сваіх палотнаў — мастак, які перакрыжоўвае ў далонях пэндзаль і пэндзлік, нібы сімвалы святога абраду, — задумлівы летуценнік і святар, які аддаецца загадам сваёй душы...

*На рэпрадукцыі:*
*У.Савіч. "У крузе магічных абрадаў". Камбін. тэхніка.*



# СВЕТ ЗЯМНОЙ ПРЫГАЖОСЦІ



Жыхары Оршы, не збалаваныя вялікай колькасцю пераСоўных выстаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, атрымалі цудоўную магчымасць пазнаёміцца з творамі віцебскіх майстроў керамікі Ігара Вараб'ёва і братоў Андрэя і Паўла Навічэнкаў. Абавязкі па арганізацыі экспазіцыі ўзяла на сябе фірма "Арыён", прымеркаваўшы выставу да адкрыцця ў горадзе шыкоўнага магазіна па продажы кветак. Ва ўдала аформленым, з улікам еўрапейскіх стандартаў інтэр'еры арганічна ўпісаліся больш за 50 арыгінальных керамічных кампазіцый. Побач з кранаючымі сваёй прыгажосцю і гармоніяй кветкамі, адмысловай зелянінай асаблівую выразнасць набылі размешчаныя на сценах эфектныя дэкаратыўныя блюды, выстаўленыя на спецыяльных подыумах вазы і свяцільнікі, разнастайная сувенірная прадукцыя. Своеасаблівымі акцэнтамі экспазіцыі сталі манументальныя па сваім характары напольныя кампазіцыі, экстэр'ерная кераміка. Пераважную большасць аб'ектаў на



выставе склалі аўтарскія кампазіцыі, выкананыя ў апошні час, і вырабы на тэмы ўжо вядомых віцебскаму гледачу па шэрагу папярэдніх экспазіцый керамічных твораў.

Напэўна, нават магазін кветак не самае лепшае месца для сапраўднага мастацтва. Але ў горадзе, "экспазіцыйная прастора" якога абмежавана адзінай залай, і такі варыянт здаецца прымальным. Тым больш, што, шчыра кажучы, народ, заюшыўшыся ў віхуры будзённых праблем, не спяшаецца ў спецыяльныя выставачныя залы. Ды і мастакі, не крывячы душой, спадзяюцца на продаж сваіх твораў. Бо эксперыменты з керамікай сёння — надзвычай клопатная і фінансава непасільная для многіх мастакоў справа. І займацца гэтай энергаёмкай вытворчасцю могуць толькі апантаныя майстры, для каго незалежна ад складанасцей часу прага творчасці, гармоніі і прыгажосці няўмольная.

**Міхась ЦЫБУЛЬСКІ**
*Віцебск—Орша*

*На здымках: І.Вараб'ёў. "Белыя ночы". А.Навічэнка. "Бурэ". П.Навічэнка. "На хутары".*
**Фота аўтара**



# СПРУЖЫНА ЦЭЗУРЫ



Уладзімір Слабодчыкаў належыць да найбольш цікавых сучасных скульптараў Беларусі. Ён ужо даўно знайшоў сваю ўласную інтанацыю і вольную, моцную пластычную мову, што яскрава засведчыла ягоная выстава ў мінскім Палацы мастацтва.

Кампазіцыі У.Слабодчыкава валодаюць багаццем замкнёных рытмаў, што пераходзяць адзін у другі, моцнымі акордамі асобных пластычных мас і выразнасцю цэзур паміж постацямі.

Свае творы ён будуе на складанай гульні аб'ёмаў і прастораў, на супастаўленні дакладных вертыкаляў і плаўных, зменлівых формаў. Так званыя дробязі жыцця, малыя справы, аблічы і сцэнкі з паўсядзённасці могуць быць прадметам па-свойму моцных мастацкіх аповедаў. Але Слабодчыкава цікавіць іншае: з'явы, ідэі, развагі, што ўтрымоўваюць у сабе маральныя рысы часу, ягоную асаблівую эмацыйную атмасферу, кантрапункт думак і пачуццяў.

Ягоныя творы — гэта нібыта сукупнасці радасцяў і трагедый, спадзяванняў і ілюзій. Яны — пра маральнае месца чалавека і чалавецтва ў сусвеце, пра лёсы пакаленняў, пра складана ўзнікаючыя і складана існуючыя адносіны людзей. Кампазіцыі з цыклаў пра Мадонну, "Біблейскія сюжэты", "Лёс", "На прыступках памяці", "Сляды на пяску", "Па хвалях жыцця", лёгкія і імклівыя "архітэктурападобныя" экзерсісы, прысвечаныя Марку Шагалу, напоўненыя сцісчаныя, нібы спружына, унутранай экспрэсіяй, высакародствам формаў, асаблівай адухоўленасцю і яснасцю гуманістычнага мыслення.

*На здымку:*
*У.Слабодчыкаў. "З'яўленне". З нізкі "Жыццё". Бронза.*

# ВЫСТАВЫ

Мікалая Рэрыха справядліва называюць заснавальнікам філасофскага пейзажа, бо ў жывапісе ён сцвердзіў глыбіню і магутнасць філасофскага мыслення. Кожная ягоная карціна — гэта вобраз, што перарастае ў сімвал Святла і Стваральнага Агню.

"Ёсць цудоўныя мастакі, якія заўсёды некага і нешта нагадваюць. Рэрых можа нагадваць толькі тыя чароўныя і святыя сны, што сняцца чыстым юнакам і старым і на імгненне зблізкаюць іхнюю змрочную душу са светам незямной шчырасці". Так некалі напісаў пра Рэрыха рускі пісьменнік Леанід Андрэеў.

Выстава жывапісных твораў Мікалая Рэрыха з вялікага цыкла "Гімалаі", складзеная з фондаў маскоўскіх музеяў, экспануецца ў мінскім Палацы мастацтва.

* * *

Працягвае працаваць юбілейная выстава жывапісу Мікалая Назарэнкі, прысвечаная 70-годдзю з дня яго нараджэння.

**Аўтар "Мастыхіна" — Барыс КРЭПАК**

Нататкі журналіста

# ГРОМ У РАІ

***Прыехаўшы ў Нямеччыну, я зразумеў, што трапіў у рай. Пажыўшы там зусім нядоўга, я яшчэ раз зразумеў, што там, дзе мы жывем, раю не бывае. Ён, зазвычай, там, дзе нас няма. І як толькі мы з'яўляемся "там", рай адразу перасоўваецца ў іншае месца. Здаецца, толькі цяпер я канчаткова пераканаўся ў аксіёме, у якую раней не вельмі і верыў: раю няма нідзе.***

Узгадалася мне маё працяглае настаўніцтва ў прафесійна-тэхнічнай вучэльні і частыя размовы з навучэнцамі пра шчасце. Не аднойчы высвятлялася, што сённяшняя "пяцёрка" на ўроку і бутэлька таннага віна ўвечары, ужо не кажучы пра матацыкл напрыканцы навучальнага года, — гэта і ёсць шчасце. Колькі гэтым гаротным дзецям засталося яшчэ светлавых гадоў да вышыні і шырыні "простага" паняцця шчасця (раю), што ўтрымоўвае ў сабе таксама "простыя" словы бясконцага раду: каханне, любімая праца, свабода, стасункі, вандроўкі, творчасць...

Усё гэта, і галоўнае з гэтага шэрагу — свабода, магчымае ў кожнай кропцы Зямлі. Розніца ў маштабе магчымага, бо, паводле словаў аднаго з сучасных дыпламатаў, пры дыктатуры не ўсё падманлівае, але цэласнае ўяўленне атрымліваецца скажоным; ва ўмовах дэмакратычнай прававой дзяржавы не ўсё адпавядае ісціне, але ў цэлым задаецца верны накірунак. Бясспрэчна, лепшае гармадства не тое, дзе нарадзіўся Мікеланджэла, а тое, дзе кожнаму забяспечана магчымасць ім зрабіцца.

У дадзеным выпадку размова пойдзе не пра верны напрамак у прававой і дэмакратычнай дзяржаве, якой, несумненна, з'яўляецца Нямеччына, а пра тое, што і на гэтай зямлі "не ўсё адпавядае ісціне". І — далёка не па дробязях.

Сёння я разумею, што набліжэнне да раю, якога няма, — гэта здзяйсненне ў дзяржаве дэмакратычных прынцыпаў. Для немца гэта — святое: закон ёсць закон. Яго нельга парушыць нават "часткова", яго трэба выконваць нават, калі гэта прыносіць страты Нямеччыне. (Палітычныя ўцекачы — іх цяпер у ФРГ тысячы, не могуць быць выкінутыя з Нямеччыны, пакуль іхні лёс не вырашыць суд, іншы раз гэта цягнецца гадамі, а ўцекачы, сярод якіх добрая палова — простыя аферысты, жывучы на нямецкім хлебе, апранаючыся за кошт дзяржавы, атрымліваючы кішэнныя грошы, месцячыся ў вельмі прыстойных умовах, рабуюць нямецкія крамы на вялікія сумы і яшчэ, у дадатак да ўсяго, наладжваюць "рускія" гулянкі ды п'янкі. Я гэта пішу не па чутках. "А як наконт таго, каб адвезці іх да мяжы і выштурхнуць?" "Нельга. Гэта будзе парушэнне закону", — адказаў мне паліцэйскі чыноўнік.) Яны разумныя, немцы. Яны разумеюць: як толькі парушыш закон у стаўленні да замежных грамадзян, "адкусіўшы" ад яго кавалак законнасці, — праз некаторы час будуць парушаны правы немцаў, і тады — разваліцца дэмакратыя.

Але паколькі не бывае нічога абсалютнага, дык застаюцца рэальнасці. І яны, відавочна, даводзяць нам, што мае рацыю разумнік Бернард Шоу, які сказаў, што калі гісторыя і вучыць нас чамунебудзь, дык толькі таму, што мы нічому не вучымся. Сказанае Бернардам Шоу часам стасуецца не толькі з вучнямі (увесь былы СССР цяпер вучыцца ў падрыхтоўчым класе дэмакратыі), але і з настаўнікамі.

Нямеччына — адна з самых заможных краін свету. Гэта —банальна, як і хрэстаматыя ўзаемадачыненняў паміж Волгай і Каспійскім морам. Але багатых дзяржаваў на зямлі нямала, і не таму Нямеччыну шануюць ва ўсім свеце. А таму, што яна з'яўляецца падмуркам і гарантам дэмакратыі, прынамсі, у Еўропе.

Міжволі, апынуўшыся ў гэтай краіне, я адразу адчуў усю цвярозасць і няўмольную логіку яе дэмакратычных прынцыпаў "на ўласнай скуры" і арганічнае спалучэнне добрай эканомікі з гуманістычнымі прынцыпамі. (Між іншым, як і непарушнасць улады чыноўнікаў на месцах, якія іх абмяжоўваюць.)

Ці даводзілася вам хоць аднойчы ў жыцці бачыць дэманстрацыю школьнікаў ля гарсавета якога-небудзь савецкага горада?

Я ўбачыў такую дэманстрацыю ля брэменскага бургамістрата. Вучні стаялі з плакатамі, кожны, хто жадаў, падыходзіў да мікрафона і казаў тое, што хацеў сказаць. Іх ахоўвала паліцыя. Дзеці патрабавалі новыя падручнікі (старыя, аказваецца, ужо не паспявалі за жыццём), памяншэння колькасці навучэнцаў у класе і больш прафесійных настаўнікаў. Выказаўшыся і перадаўшы свае патрабаванні (чатырыста дзіцячых подпісаў) бургамістру, школьнікі разышліся, каб выпіць кавы, колы і папаліць. (Паляць, паляць, чортавыя дзеткі! Так! І сексам рана пачынаюць займацца, і ў трамваях гучна размаўляюць...) Бургамістр у вызначаны законам тэрмін, не сумнявайцеся, дасць адказ на петыцыю, а школьнікі альбо працягнуць страйк, альбо вернуцца за парты.

Прышчэпка дэмакратыі робіцца ў маленстве. Немаўляты з'яўляюцца на свет у прававым асяродку, і ім нічога не застаецца, як толькі стаць "прававымі" людзьмі.

Але вернемся да нашых (іхніх!) бараноў. Такой сацыяльнай сістэмы, якую стварыла Нямеччына, няма нідзе ў свеце, улічваючы яшчэ і маштаб, да якога яна прыкладаецца.

Такой эмігранцкай палітыкі, якую праводзіць Нямеччына, таксама не ведае ніводная краіна. Праўда, і такой жудаснай гістарычнай рэчаіснасці, што засталася за плячыма ў немцаў, таксама няма ні ў кога, акрамя, мабыць, як у нас. І, магчыма, яе ўрокі (насуперак Бернарду Шоу) былі ўсё ж усвядомлены Нямеччынай і стварылі феномен, я мяркую, яшчэ не ацэнены і не вывучаны цалкам — здзіўляючае духоўнае адраджэнне нацыі і яе ачышчэнне.

Адна з маіх знаёмых, брэменскі псіхолаг, якая добра памятае пасляваеннае жабрацтва і голад, на пытанне "новага рускага", "навошта Нямеччына напоўніла сябе Афрыкай, Азіяй і Расіяй ды яшчэ ў такіх нечуваных прапорцыях: на кожных восем немцаў — адзін эмігрант?" — адказала: "У мяне няпростыя стасункі з маёй радзімай, але калі б Нямеччына мела іншую эмігранцкую палітыку, яна не была б маёй радзімай".

Узняцца на такую духоўную вышыню дадзена не кожнаму народу (і яшчэ някепска было б улічыць — гэта для недасведчаных — усё, што мае Нямеччына, ёй ніхто не падарыў, і калі сёння дорыць яна, дык толькі сваё, уласнае).

Сёння разумныя немцы зусім не дарэмна заклапочаны сваімі ўнутранымі справамі не матэрыяльнага кшталту і, у першую чаргу, стаўленнем немцаў да ўсходніх немцаў, немцаў да "чужых", у прыватнасці, немцаў да "рускіх".

Чатыры гады таму я пазнаёміўся з першай у маім жыцці жывой баранесай. І вось цяпер ужо, распавядаючы мне пра "жартачкі" рускай мафіі ў маленькай "дзяржаве Брэмен" (асноўныя "бітвы-разборкі" са стрэламі сярод белага дня адбываюцца ў Беэліне), яна сказала: "Разам са з'яўленнем вашых людзей у Нямеччыне пасля распаду СССР злачыннасць у нас набыла іншую якасць і, галоўнае, — людзі пачалі лёгка забіваць адзін аднаго".

Ніводная нямецкая газета за апошнія гады не выходзіла ў свет без паведамленняў пра справы "рускай мафіі".

Але тое, сведкай чаго стала Нямеччына і пра што, доўга не сціхаючы, распавядалі чытачам газетчыкі ўсяго свету, было здзейснена не "рускай мафіяй", а рыцарамі непарушнай законнасці — нямецкай паліцыяй паводле загаду кіраўніка аддзела па барацьбе са злачыннасцю пана Шміта.

... Дзень быў прыгожы, і многія з тых, хто прыехаў у берлінскі рэстаран "Асторыя", былі апранутыя ў святочныя ўборы. У начным канцэрце павінны былі выступіць артысты цыганскага ансамбля пад кіраўніцтвам вядомага і ў Еўропе Пятра Дзямідава. Рускі Берлін ішоў цэлымі сем'ямі — бабулі, дзеці, унукі. Былі тут і нямецкія інтэлігенты, урачы, людзі мастацтва...

За дзесяць хвілін да пачатку свята ў рэстаране літаральна вылецелі ўсе вокны, і ў залу ўварваліся 130 нямецкіх паліцэйскіх (зондэркаманда) з аўтаматамі. (Дарэчы, гледачоў было толькі 110...) А на вуліцы "Асторыю" заблакіравалі яшчэ 150 "камандас" з сабакамі.

— Рукі на стол! Не варушыцца! Не размаўляць! Відэльцы і нажы — на падлогу!

І для святочна настроенай публікі пачаўся чатырохгадзінны жах.

"Я хацеў супакоіць свайго сына, але мяне адразу кінулі на падлогу, загадаўшы не варушыцца", —



"Яны гвалтам адвялі мяне ў прыбіральню, паднялі сукенку, сарвалі бялізну і шукалі там, дзе і ў нас не шукаюць..."

На тых, хто спрабаваў пра нешта папытацца альбо нешта растлумачыць, надзявалі наручнікі. Мінула гадзіна, другая і... людзі заспявалі. Яны спявалі ў знак пратэсту. Чатыры гадзіны сто чалавек, сярод якіх былі дзеці і старыя, сядзелі за сталамі, ляжалі на падлозе. За вокнамі чуўся брэх сабак... Нарэшце, а другой гадзіне ночы, было аб'яўлена: "Пашпартны кантроль скончаны, можаце працягваць (!) вечарыну".

Разыходзячыся па дамах, людзі так і не зразумелі, што ж адбылося і — чаму? Многія з іх, хто шмат гадоў правёў у Нямеччыне, былі шакіраваныя.

Адна з журналістак прарвалася да пана Шміта, і ён растлумачыў штурм "Асторыі" наступным чынам: "Там, дзе збіраюцца рускія, могуць быць і людзі з мафіі. Мы меркавалі, што ў "Асторыі" маглі знаходзіцца тыя, каго шукае паліцыя. Мафіёзі звычайна ўзброеныя, таму мы і выклікалі для падтрымкі спецыяльныя часці".

Газета "Рускі Берлін" так пракаментавала гэтую заяву: "Шчасце, што падазрэнні паліцыі не апраўдаліся і публіка атрымала толькі "лёгкі шок". А калі б сярод іх былі ўзброеныя бандыты? Тады б зала "Асторыі" стала месцам крывавай бойні — і большасць загінуўшых склалі б невінаватыя..."

"Толькі з падазрэння наладзіць такое свята? — падумаў я. — Толькі з падазрэння загадзя зрабіць заложнікамі 110 чалавек? Ці "руская" кроў сёння больш танная на сусветным рынку?"

Амерыканская "грамадскасць" вуснамі аднаго са сваіх адвакатаў паклала сітуацыю на свае вагі: "Калі б штосьці падобнае адбылося ў нас, дык амерыканская паліцыя проста не здолела б разлічыцца з гэтымі людзьмі за зробленую ім маральную шкоду і абразу".

А вартаўнік рэстарана "Асторыя" сказаў: "Я чвэрць стагоддзя жыву ў Нямеччыне, але дасюль не магу ўявіць, што такое магло адбыцца ў дэмакратычнай краіне, якая заўсёды славілася сваёй шчырасцю і добразычлівасцю".

Я — не вартаўнік "Асторыі" і не жыву ў Нямеччыне чвэрць стагоддзя, але я таксама не ў стане гэтага зразумець. Хаця магу патлумачыць. Гэта не павінна было адбыцца, але, калі ўсё ж здарылася, дык, значыць, ёсць "плечы", на якіх "трымаецца" гэтая сітуацыя.

На пачатку гэтых нататак была спроба падвесці тэарэтычную базу пад гэткія і падобныя да іх з'явы (у горадзе Малаве фашысцкія нягоднікі да паўсмерці збілі і назаўсёды знявечылі двух юнакоў-неграў, дзесьці яшчэ салдаты асобнай танкавай часці падчас адпачынку жорстка збілі "чужынца". Але, што больш страшна за самі гэтыя факты, — яны ішлі пад дэвізам "Deutschland — für Deutschen" ("Нямеччына — для немцаў").

А вось вам і "мая ўласная" практыка.

Пасля апісання "канцэрта" ў "Асторыі" ў газету, якая змясціла паведамленне пра гэта, прыйшлі лісты, адзін з якіх я прачытаў і — не змог стрымаць хвалявання. Сэнс ліста фраў Юінблат зводзіўся да наступнага: "А чаго гэта вы, панове рускія, знаходзячыся ў гасцях у маёй Нямеччыне, прад'яўляеце ("качаеце") правы? Вас прынялі, стварылі ўмовы для жыцця, а вы яшчэ і хочаце, каб вас ставілі з намі ў роўныя ўмовы перад законам? Ну і што з таго, што вас абшукалі? А ці не вашая мафія (яшчэ невядома, хто вы, тыя, хто пратэстуе) страляе ў Берліне і па ўсёй Нямеччыне? І... ці не вашы салдаты ў 1945 годзе гвалтавалі на маіх вачах нямецкіх жанчын? Дык скажыце вялікі дзякуй і ціхенька жуйце нямецкі хлеб і сядзіце так, каб вас не было чуваць".

Змест майго адказу (ён быў надрукаваны) прывяду скарочана: "Фраў! Не трэба ўсіх "рускіх" прылічваць да мафіі. Мяне ў Нямеччыну запрасіў нямецкі ўрад, якому за ягонае стаўленне да эмігрантаў апладзіруе ўвесь свет, — а вы ставіце гэтую палітыку пад сумнеў, прыніжаючы і зневажаючы паўтара мільёна чалавек. Гонар і хвала паліцыі, якая змагаецца са злачынцамі, нават калі яны па нацыянальнасці немцы. Пры чым тут свята ў "Асторыі"? Што да сорак пятага года, дык дарэмна вы, нешаноўная фраў, раскопваеце магілы 50-гадовай даўніны ў той момант, калі два народы, якія ледзь не сцерлі сябе з зямлі падчас вайны, распачатай не рускімі, падаюць адзін аднаму рукі і, здаецца, збіраюцца жыць у міры. І што з гэтага будзе, фраў (прозвішча), калі, адказваючы на вашыя "ўспаміны", я паклічу з магіл тры мільёны жыхароў Беларусі, сярод якіх 800 тысяч маіх суродзічаў? Не трэба, фраў, пісаць для нас такія лісты. Мы страцілі шмат, і нам жывецца тут, у эміграцыі зусім не так салодка, як вы мяркуеце, — але гонар мы ўсё ж маем..."

Напрыканцы гэтых нялёгкіх нататак пра падзеі, што прымусілі мяне ўзяць у рукі асадку (я б, зразумела, з большым задавальненнем напісаў для вас пра тое, як жыве Святаслаў Рыхтэр, — ходзяць чуткі, што ён "хаваецца" ў Брэмене; альбо пра тое, чым займаецца Губайдуліна, якая працуе непадалёку, у Гамбургскай кансерваторыі; альбо пра візіт міністра культуры Расіі Сідарава ў Брэмен па пытаннях рэстытуцыі), але тое, пра што напісаў, падаецца мне больш важным.

Я не думаю, што стаўленне немцаў да рускіх павінна быць "афармлена" ў незаконныя і зняважлівыя дзеянні ўрадавых сілавых структур, як гэта здарылася ў "Асторыі".

Калі ўзяць паўтара мільёна "рускіх", якія жывуць у Нямеччыне, і знайсці сярод іх злачынцаў, а потым тую ж працэдуру зрабіць з паўтара мільёнамі немцаў, дык, мяркую, мы б убачылі не толькі "нячыстых" рускіх і не толькі "чыстых" немцаў. Бо злачыннасць не мае нацыянальнасці, а калі адбываецца тое, пра што мы гаворым, дык гэта ўжо пытанне не толькі і не столькі злачыннасці...

У "самай" дэмакратычнай краіне, у цэнтры Еўропы і ў цэнтры Берліна, калі "на двары амаль трэцяе тысячагоддзе", давялося пабачыць такое: зондэркаманда, аўтаматы, аўчаркі і — мірныя жыхары (большасць з іх — габрэі) у наручніках, якія ў знак пратэсту спяваюць "Хаву Нагілу"...

Калі б вы ведалі, як доўга я адганяў ад сябе гэтыя вобразы...

Свет вялікі, але, як мы ўжо высветлілі, раю няма нідзе. І я схіляюся да высновы, што ягоная адсутнасць шмат у чым звязаная са з'яўленнем на зямлі чалавека. Але мне зразумела таксама і тое, што менавіта ён, "вінаваты", абавязаны, павінен (бо больш няма каму) абараніць і захаваць тое, што так дорага і балюча заваявана і ўжо даўно "працуе" на гэтым свеце — дэмакратыю, лад жыцця, лепей за які пакуль нічога не вынайдзена.

Кошкі, сабакі і журналісты першымі адчуваюць землятрус, што мае адбыцца. Даведаўшыся пра тое, што здарылася ў "Асторыі", прачытаўшы ліст фраў Юінблат, далучыўшы "дробязі" майго асабістага "нямецкага" вопыту, я адчуў страх: няўжо я чую эмбрыянальныя штуршкі братоўблізнятаў, якія спрабуюць адрадзіцца — фашызму і камунізму...

Вось што стала, уласна кажучы, прычынай з'яўлення гэтых радкоў.

**P.S.** Неяк ужо занадта просценька выглядаюць думкі, што нечакана прыйшлі ў галаву: не хочацца браць чужы крыж на сваю душу, асабліва ў хвіліны, калі адчуваеш (раней гэтае адчуванне не было такім вострым і балючым), што ты неаддзельны ад мінулага не толькі крывёю, не толькі каранямі, але, галоўнае, маральна. Душа не можа жыць самотна. Я адчуў гэта з радасцю і сумам, калі праз шэсць "нямецкіх" месяцаў прыйшоў у сваю рэдакцыю "Культуры", дзе пасля шчырых абдымкаў мне распавялі пра тое, што пад вокнамі рэдакцыі спілавалі ўсе дрэвы, акрамя аднаго-адзінага дрэўца, з-пад карэнняў якога мне калісьці выкапалі жменьку зямлі, каб даць з сабою ў дарогу...

**Навум ЦЫПІС,**
**наш уласны карэспандэнт**
**у Германіі**
*Брэмен — Мінск*

# НЯМЕЦКІ ДОН-КІХОТ І БЕЛАРУСКІЯ ВЕТРАКІ

Каб паглядзець гэты спектакль, трэба ісці... на сцэну. Так, якраз там знаходзяцца сёння глядацкія месцы. Насупраць адзін аднаго стаяць "чатырохпавярховыя" памосты з толькі што пагабляваных дошак, дзе і месцяцца гледачы. Паміж імі — прастора, дзе зверху звісаюць бярвенні, якія можна зняць з ланцугоў, а таксама гайдаць, як захочацца. Тут жа на сцэне насыпаная зямля, побач — салома, перамяшаная з кляновым лісцем, трохі далей лёгка гайдаецца пер'е. На сцэну выходзяць чатыры акцёры, якія іграюць: Дон-Кіхота, Санча Пансу, Расінанта і Шэрага (восліка, на якім ездзіць слуга рыцара з Ламанчы).



Неверагоднае адзенне, якое лёгка зблытаць з рыззём, але якое, аднак, дае падабенства персанажаў з брэйгелеўскімі карцінамі, надае гэтай чацвёрцы нешта фантасмагарычнае. Элементы вупражы Расінанта як бы пераходзяць на самога Дон-Кіхота — на торсе, на нагах у яго пераплёты з вяровак і скуры, на галаве ж — нешта падобнае да сярэдневяковага шлема, але шышак наверсе дзіравы, як друшляк, і з дзіркі тырчыць вяровачка.

Такім паўстае гэты неўміручы рамантык і рыцар-вандроўнік у спектаклі нямецкага тэатра "Орф", такім бачыць яго рэжысёр і адначасна аўтар інсцэніроўкі Сузана Трукенброт, трыццацігадовая, зусім яшчэ юная на від жанчына, у мінулым, па першай сваёй прафесіі акушэрка, а цяпер — нястомная шукальніца новых формаў узаемаразумення з гледачом. Тэатр "Орф" — не дзяржаўны, хаця час ад часу ён атрымлівае субсідыі на пэўныя спектаклі, якія заўсёды — своеасаблівыя эксперыменты.

"У гэтым няма нічога дзіўнага, — гаворыць Барыс Луцэнка, адзін з вядучых рэжысёраў Беларусі (дарэчы, згаданы спектакль адбываўся на сцэне Рускага тэатра). — У Польшчы спецыяльна створаныя тэатры, мэта якіх — эксперымент, іх задача — як бы "прасоўваць" тэатр наперад, іх дзейнасць — своеасаблівая навукова-даследчая база ўсяго польскага тэатра. І берлінскі тэатр "Орф" — гэта таксама тэатр пошуку, новых адносін з глядацкай залай.

Сузана Трукенброт прымушае акцёраў працаваць "з поўнай выкладкай", дзеля таго каб падкрэсліць некалькі важных для яе ісцін, адна з якіх тая, што цяпер, "пасля таго як мінула яшчэ чатырыста гадоў краху чалавецтва, смерць, страта Дон-Кіхота павінна ўспрымацца як яшчэ больш экзістэнцыяльная, жахлівая, жорсткая, трагічная, чым у часы Сервантэса".

"Яны разбураюць міфалагізацыю класікі, — дзеліцца сваімі ўражаннямі творчы кіраўнік тэатра "Вольная сцэна", вядомы рэжысёр Валерый Мазынскі. — Тым самым дапамагаюць нам убачыць вядомае па-новаму. Бо, калі мы не бачым, як працуюць нашы калегі ў іншых краінах, а толькі сядзім на месцы, як жукі ў слоіку, то паступова робімся "дзікай правінцыяй". "Калі б я не пазнаёміўся са спектаклямі многіх нямецкіх тэатраў, у тым ліку і тэатра "Орф", то, можа, і не змог бы ў поўную сілу працаваць і эксперыментаваць на "Вольнай сцэне". І я вельмі ўдзячны дырэктару Гётэ-інстытута ў Мінску Веры Багальянц, па запрашэнні якой тэатр прыехаў у Мінск. Мне важна было бліжэй пазнаёміцца менавіта з гэтым калектывам, бо калі ў "савецкім" раёне Берліна (я не агаварыўся, квартал, дзе месціцца тэатр, тады яшчэ выглядаў як тыпова "нашы" Чаромушкі — паламаны асфальт, дзіркі, зарумзаныя сцены) мы ўбачылі маладых людзей, якія выраслі ў гэдээраўскай Германіі, а цяпер ужываліся ў іншы свет, я адчуў пэўнае падабенства з нашымі рэаліямі, з нашымі праблемамі.

Аб важнай місіі Гётэ-інстытута ў Мінску — а менавіта аб яго пастаяннай працы па збліжэнні разумення народаў праз культуру — гаварыў пасля спектакля і міністр культуры Аляксандр Сасноўскі.

А мы, гледачы, таксама раздумвалі над многім і нібы адказвалі на вечныя пытанні, якія і пасля нас будзе задаваць праз сваіх герояў бессмяротны рыцар справядлівасці...

**Вольга ІПАТАВА**

*На здымку: сцэна са спектакля "Дон-Кіхот".*

## Навіны расійскай культуры

### НА АСОБНЫ РАХУНАК

Дзяржаўны экспертны савет пры Прэзідэнце Расіі па асабліва каштоўных аб'ектах культурнай спадчыны народаў Расійскай Федэрацыі вынес свой чарговы вердыкт, які атрымаў статус прэзідэнцкага ўказа. Да асабліва каштоўных культурных аб'ектаў, у прыватнасці, аднесены Усерасійскі музей А.С.Пушкіна (г.Санкт-Пецярбург), Галоўная (Пулкаўская) астранамічная абсерваторыя Расійскай акадэміі навук, Лермантаўскі музей-запаведнік "Тарханы" (Пензенская вобласць), мемарыяльны і прыродны музей-запаведнік І.С.Тургенева "Спаскае-Лутавінава", музей Л.М.Талстога ў Маскве, музей-запаведнік "Царскае сяло", Кірыла-Белазёрскі гісторыка-архітэктурны і мастацкі музей-запаведнік, Расійскі дзяржаўны архіў кінафотадакументаў (Маскоўская вобласць), Расійскі дзяржаўны архіў літаратуры і мастацтва. У адпаведнасці з указам Б.М.Ельцына з наступнага года паляпшаюцца прававыя, фінансавыя і матэрыяльна-тэхнічныя ўмовы дзейнасці гэтых аб'ектаў. Паклапаціцца пра гэта даручана як федэральным міністэрствам і ведамствам, так і рэгіянальным органам улады.

### ДЗЕ ВЫ, ФУНДАТАРЫ?

XVII Міжнародны дзіцячы кінафестываль пройдзе ў Маскве з 1 па 10 верасня. Для яго правядзення маскоўскі ўрад, паводле слоў мэра сталіцы Юрыя Лужкова, выдаткуе 2,5 млрд. рублёў. Акрамя гэтага, на фестывальныя патрэбы будзе пералічана 2 млрд. рублёў з федэральнага бюджэту.

Арганізатары фестывалю дзіцячага кіно разлічваюць і на дапамогу спонсараў. У прыватнасці, яны звярнуліся да кіраўніцтва цэнтральных расійскіх тэлеканалаў з просьбай арганізаваць бясплатны паказ некаторых фестывальных фільмаў.

### ПУШКІНСКАЯ ПРЭМІЯ — ВІКТАРУ АСТАФ'ЕВУ

Міжнародная прэмія імя Аляксандра Пушкіна за 1997 год, якая заснавана германскім фондам імя Альфрэда Тэпфера, прысуджана вядомаму расійскаму пісьменніку Віктару Астаф'еву. Памер прэміі — 40 тысяч нямецкіх марак. Сярод лаўрэатаў прэміі імя Пушкіна — Бэла Ахмадуліна, Андрэй Бітаў, Людміла Петрушэўская і іншыя.

**Іван КАРЭНДА,**
**спецыяльна для "Культуры"**
*Масква*

# ЧАМУ Ж НАМ НЕ ПЕЦЬ, ЧАМУ Ж НЕ ГУДЗЕЦЬ...

У гісторыі развіцця любога грамадства таленавітая творчая Асоба заўсёды выконвала выключную ролю. Творчая моладзь Беларусі — і ёсць той бясцэнны патэнцыял, дзякуючы якому магчыма процістаяць у сучасным супярэчлівым жыцці безгустоўнасці і бессэнсоўнасці масавай культуры.

У рамках ІІ Рэспубліканскага фестывалю творчай моладзі "Музыка і тэатр" адбыўся на сталічнай сцэне канцэрт "Спяваюць артысты тэатра і кіно". Лішне казаць, што драматычны тэатр на Беларусі вылучае музычнасць акцёраў. Гэта генетычна. Моладзь у той вечар прадстаўляла свае тэатры, дзе працуе, і Акадэмію мастацтваў, дзе вучыцца сёння. Як той казаў, было ўсяго: песня а ля рэпертуар рэстарацыі на Брайтан-Біч, аперэтачныя арыі, прыпеўкі, фальклор, рамансы, бардаўскае выкананне. Нават "зримая песня" (тэрмін з акцёрскай школы навучання), якую прадэманстравала балетная група студыі Ліліі Студневай.

Не было толькі жанравай канцэпцыі канцэрта "Спяваюць артысты тэатра і кіно": ці то шоу, ці то справаздача.

А моладзь, і сапраўды, творчая!

**Жанна ВАСАНСКАЯ**

# СТРАТА..

1 чэрвеня 1997 года беларуская культура панесла вялікую страту: на 44-м годзе свайго жыцця ў выніку трагічнага выпадку памёр таленавіты кампазітар, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, член Саюза кампазітараў Беларусі — Уладзімір Яўгенавіч Солтан. Імя гэтага выдатнага творцы было добра вядома ў нашай краіне і па-за яе межамі. Ул.Солтан — аўтар опер, сімфоній, канцэртаў, харавых і камерна-інструментальных твораў, песень і музыкі да кінафільмаў. Разнастайная і багатая ў жанравых адносінах спадчына кампазітара сведчыць аб высокім прафесіяналізме майстра, а з музычнага боку вызначаецца вобразнай канкрэтнасцю, інтанацыйнай выразнасцю і нацыянальнай характэрнасцю. Адзін з лепшых твораў мастака, опера "Дзікае паляванне караля Стаха", створаная паводле кнігі Ул.Караткевіча, атрымала ў 1990 годзе Дзяржаўную прэмію Беларусі і карысталася заслужанай папулярнасцю сярод свядомай беларускай інтэлігенцыі.

Уладзімір Солтан быў адным з лепшых прадстаўнікоў сучаснай айчыннай культуры. Высокі патрыятызм, пастаянны пошук, патрабавальнасць да сябе спалучаліся з духоўнасцю і ўнутранай прыгажосцю яго багата адоранай, творчай натуры. Мы з сумам і бясконцай тугою развітваемся з Уладзімірам Солтанам — кампазітарам, грамадскім дзеячам, з добрым і чулым чалавекам, сапраўдным прадстаўніком нацыянальнай творчай інтэлігенцыі.

**Сасноўскі А.У., Рылатка У.П., Лучанок І.М., Багатыроў А.В., Дарохін У.В., Вагнер Г.М., Смольскі Д.Б., Глебаў Я.А., Картэс С.А., Войцік В.А., Казінец М.А., Дрынеўскі М.П., Зуёнак В.В., Дудараў А.А., Пташук М.М., Скараходаў У.П., Анісімаў А.М., Елізар'еў В.М., Кірыенка А.П., Гільдзюк Ю.М., Ратабыльскі У.П., Грыгаровіч Я.Д., Шаранговіч В.П., Суша А.М.**

**Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь выказвае глыбокае спачуванне галоўнаму рэдактару часопіса "На экранах" ПЕРАГУДАВАЙ Людміле Іванаўне з прычыны напаткаўшага яе вялікага гора — смерці маці.**

# ЯНА ПАКУТАВАЛА НЯДОЎГА..

## 6 чэрвеня распачаліся гастролі Гродзенскага абласнога тэатра



Бульварны амерыканскі камедыёграф Джон Патрык, мабыць, ніколі не думаў, што, трапіўшы на беларускую глебу, ягоная вясёлая, лёгкая "камедыя становішчаў" "Дарагая Памела" здолее зрабіцца гучнай сацыяльнай драмай. Рэжысёр Гродзенскага абласнога тэатра Г.Мушперт скарыстаў гэтую камедыю ў якасці своеасаблівага эрзаца вострай сучаснай п'есы, дэфіцыт якой мы ўсе сёння адчуваем.

Твар, так бы мовіць, у гродзенскага тэатра засмучаны. Тэатр, здаецца, развучыўся ўсміхацца. Забаўная гісторыя пра старую, якая дала прытулак на сваім сметніку кішэнным зладзюжкам і затым перавыхавала (!) іх, у гродзенцаў стала такой сур'ёзнай і псіхалагізаванай, што амаль цалкам страціла гумар. Калі раптам і гучыць у спектаклі гумар, дык гэты гумар — чорны, у стылі жорсткіх-садысцкіх дзіцячых вершыкаў. Камічныя, трапныя дыялогі п'есы тут успрымаюцца як недарэчнасць і абсурднасць сучаснай вулічнай мовы, дзе неспалучальныя выказванні існуюць побач: думка толькі прыблізна акрэсліваецца, не паспяваючы атрымаць адэкватнага, дакладнага ўвасаблення ў словах. Але... Малапісьменныя людзі прызвычаіліся разумець адзін аднаго. У сваім падыходзе да тэксту п'есы рэжысёр абапіраецца на айчынны вопыт "магнітафоннай драматургіі", так званай "новай хвалі". Жаргонную гутарку злачынцаў тэатр і не спрабуе зрабіць паэтычнай, бо жаргон — частка штодзённай, грубай лексікі кожнага сучаснага чалавека. Крымінальнасцю ў спектаклі прапітаныя ўсе рэаліі існавання герояў, злачынства, нібы статычная электрычнасць, вісіць у паветры...

Бенефісная п'еса пастаўлена Мушпертам спецыяльна для актрысы Алены Гайдуліс і яе хатняга ката. Апошні з'яўляецца ва ўсіх выглядах — разгульвае па сцэне як сапраўдная дзеючая асоба спектакля. Ягоны фотапартрэт аздабляе стол гаспадыні, а напрыканцы спектакля велізарных памераў пыса з вусамі праецыруецца на экране. Да ката, і да Бога, яна звяртае свае самыя шчырыя словы. У выкананні Гайдуліс Памела — бясконца самотны чалавек сярод людзей. Яна любіць свайго ката, і той ахвярна плаціць ёй за гэтую любоў, прымаючы на сябе лёс, наканаваны гаспадыні, — гіне пад абломкамі дома.

Памела, якая выкінута на сметнік — нібы старая, не патрэбная ўжо рэч, — здаецца, страціла абсалютна ўсё, тым не меней у спектаклі яна працягвае страчваць — і на гэты раз — веру. Актрыса іграе Памелу на скрыжаванні дзівацтва і самотнай старасці.

У гродзенцаў Анёл — заступнік — панура суправаджае Памелу на працягу ўсяго спектакля і трымае ў руках усю "п'есу жыцця". З жорсткай, лёгка пазнавальнай стылістыкай побыту гэтых валацуг спалучаецца фантастыка і рэальнасць. Мабыць, рэжысёр меркаваў стварыць спектакль на перакрыжаванні дзвюх кантрастных стылёвых плыняў — вулічнай і фантастычнай, якія, зліўшыся, павінны былі перарасці ў нейкую фантасмагорыю. Аднак у спектаклі Анёл згубіў сваю інфернальную сутнасць. Лексіка ягоная мала чым адрозніваецца ад мовы іншых персанажаў п'есы (да прыкладу, ён неаднойчы ўзгадвае Чорта і да т.п.). Анёл (акцёр Т.Харламаў) бадзёрыцца, але ўжо стаміўся выконваць ускладзеныя на яго абавязкі, усё блытае, нават губляе "кнігу жыцця". І тады жыццё, пазбаўленае аховы, аказваецца адкрытым для Выпадковасці і Непрадказальнасці. Чалавек застаўся сам-насам і цяпер вольны стварыць свой лёс.

Размова Памелы з Богам — адбылася. Анёл-пасланец бязлітасны да яе, ён не мае словаў супакаення для жанчыны, не пакідае аніякай надзеі на цуд.

Ад няўдалай авантуры з продажам фальшывай парфумы да забойства — вось шлях, што праходзяць пастаяльцы Памелы. Бо ім патрэбныя грошы. Каб вырвацца з жабрацтва і пачаць "жыць".

Сол Боза (акцёр А.Акчурын) пастаянна знаходзіцца ў нірване красамоўства. Калісьці ён працаваў у друкарні і таму лічыць сябе вельмі разумным, прыпісваючы сабе чужыя думкі. Страсць да плагіята — гэта стыль ягонага жыцця і мыслення. З такой жа лёгкасцю ён "пазычае" ў наіўных іхнія рэчы. У асобе Памелы Сол, нарэшце, знайшоў удзячнага слухача, які здольны ацаніць ягоныя манеры з арсенала супергероя бульварнага "чытва". Ён страшэнна марудлівы, падобны да летуценніка. І таму, каб "раскруціць" яго на забойства старой, партнёрам даводзіцца прыкласці немалыя высілкі.

Глорыя ў выкананні С.Марэцкай, з пульхнымі шчочкамі і кірпаценькім носам, выглядае амаль як школьніца. Яна не марыць аб нечым узвышаным ці "ідэальным мужчыне", а бярэ тое, што прапаноўвае ёй жыццё. А жадае яна простага — сям'і, дзяцей, мужа, свайго кута. Але жыццё ёй у гэтым адмаўляе.

Інтэрпрэтуючы п'есу, рэжысёр Г.Мушперт адштурхоўваецца не ад логікі разгортвання думкі, не ад законаў жанру і стылю, што закладзеныя ў п'есе. Цытаты з твораў Стывенсана, Шапенгаўэра, Дастаеўскага, укладзеныя ў вусны герояў, дазваляюць яму па-новаму паразважаць пра сучаснае жыццё, пра чалавека і ягоныя ўчынкі. Выкарыстоўваючы тэкст Д.Патрыка, рэжысёр стварае свой, аўтарскі спектакль пра тое, што гаротны, даведзены да роспачы чалавек становіцца здольным на злачынства альбо сам можа стаць ягонай ахвярай. Нават маленькага промня надзеі няма ў гэтым змрочным, бязлітасным да гледача спектаклі.

Яны прыб'юць бабульку. А можа, так лепей для яе — смерць сярод людзей, а не сярод сметніка і крумкачоў.

Што ж тады трымае чалавека ў жыцці? У чым сэнс быцця? Паколькі цытаты са "Злачынства і пакарання" дамінуюць у спектаклі (нездарма ж ён называецца "Як забіць старую?"), дык каштоўнасці, якія адстойвае спектакль, таксама можна акрэсліць наступнай цытатай з таго ж Ф.Дастаеўскага: "Жыццё — паўсюль жыццё, жыццё ў нас саміх, а не ў вонкавым. Пасля мяне будуць людзі, і быць чалавекам паміж людзьмі і застацца ім назаўсёды, у любых няшчасцях, не адчайвацца і не ўпасці — вось у чым сэнс жыцця, у чым задача яго".

**Уладзімір МАЛЬЦАЎ**

*На здымку: сцэна са спектакля "Дарагая Памела".*

**Фота Аляксандра КАСАРСКАГА**

МАЙ
ПРАЗ ПРЫЗМУ "БАГЕМНАГА" ШКЛА:
А
ПРАБАЦЫІ
АВАЦЫІ
АНТУРАЖ
АЖЫЯТАЖ

# ПРА ПЛЯЖ, "ШКІЛЕТЫ" І АПЕРАЦЫЮ "ЧП"

***Наш Мінск заўсёды вылучаўся сваёй акуратнасцю сярод вялікіх індустрыяльных цэнтраў былога СССР. Мінчукі законна ганарыліся чысцінёй вуліц, плошчаў, дагледжанасцю паркаў, сквераў і зялёных газонаў, шматлікімі вадаёмамі і зонамі адпачынку як у горадзе, так і вакол яго. Вялікая колькасць раслін рабіла і паветра ў горадзе не падобным да смогу прамысловых мегаполісаў. На гэта звярталі ўвагу госці нашай сталіцы, з якімі мне даводзілася сустракацца, і сам я заўважаў гэта, аб'ездзіўшы ў свой час краіну "от Москвы до самых до окраин".***

***Перабудова зрабіла абавязковай прыкметай гарадскога пейзажу, нават у такіх гарадах, як Масква і Піцер, занядбанасць дамоў і забруджанасць вуліц паўсюдным, татальным гандлем. На гэтым фоне наш горад яўна вылучаецца ў лепшы бок, нават сёння, калі настаў не самы лепшы для ўсіх нас час. Безумоўна, гарадскім уладам і службам, што даглядаюць горад, дадалося праблем і клопату, але яны імкнуцца іх вырашыць, а гэта — ужо нямала.***

***Аднак часам усё ж позірк прыпыняецца на іржавых рэштках таго, што некалі называлася аўтамашынай. Ды і самі двары сёння больш нагадваюць платныя аўтастаянкі, чым зоны адпачынку і месца для дзіцячых гульняў: машыны паркуюцца дзе заўгодна, займаючы пад'язныя сцяжынкі, дзіцячыя пляцоўкі, псуючы зялёныя газоны і знішчаючы траву хімічнымі рэчывамі для мыцця машын. Прычыны гэтага — колькасць індывідуальных аўтамабіляў, што моцна ўзрасла за апошні час.***

***Пра гэтую і іншыя праблемы, а таксама пра магчымыя шляхі іх вырашэння я размаўляю са старшым інспектарам дарожна-патрульнай службы Фрунзенскага аддзела ДАІ, старшым лейтэнантам міліцыі Алегам СІЛКО.***



Фота Генадзя ЖЫНКОВА

**— Алег Іванавіч, за мінулае пяцігоддзе аўтамабільны парк у краіне павялічыўся на 63 працэнты. Мабыць, у Мінску гэтая лічба яшчэ больш значная. Двары і вуліцы літаральна запоўнены аўтатранспартам, з-за якога, як кажуць, ні прайсці, ні праехаць. Якія меры прымаюцца да тых, хто ставіць свае машыны, не рэагуючы на знакі і правілы паркоўкі?**

— Меры мы прымаем. Толькі ў мінулую нядзелю ў зоне адпачынку на Мінскім моры мы склалі 22 пратаколы за паркоўку ў забароненым месцы і мыццё аўтамашын у зялёнай зоне паблізу вадаёмаў. Нам вельмі не хацелася псаваць людзям адпачынак, але што ж загадаеце рабіць, калі такі "аматар прыроды" выязджае на пляж, дзе адпачываюць і купаюцца сотні гараджан, і нахабна пачынае мыць машыну, а хімія і нафтапрадукты сцякаюць у ваду? Між іншым, стаянка, дзе ўсё гэта можна зрабіць, знаходзіцца праз два крокі! А яшчэ — кінутыя і разабраныя на часткі машыны ў дварах і ля гаражных кааператываў. Дарэчы, пра апошнія. За мінулы квартал мы толькі ў Фрунзенскім раёне прыбралі рэшткі больш за 80 кінутых машын, а за апошнія два тыдні — яшчэ больш за 20. Адкуль з'яўляюцца гэтыя "шкілеты"? А атрымліваецца гэта так: прыганяюць з замежжа старыя аўто, скарыстоўваюць запчасткі і разам з кузавам рэалізуюць іх на рынку, а "шкілет" кідаюць дзе-небудзь. Такія сляды інтэнсіўнай аўтамабілізацыі нашых суграмадзян растуць штодня, нібыта грыбы пасля дажджу.

**— Што Вы робіце ў такіх выпадках, як караеце за такія дзеянні?**

— Яшчэ зусім нядаўна штраф за гэта быў чыста сімвалічным — 30 тысяч рублёў. Цяпер антысанітарыя прадугледжана 130-м артыкулам і караецца штрафам ад 150 да 850 тысяч рублёў. Гэта ўжо значная сума для шараговых парушальнікаў і прымушае некаторых задумацца. Але, на жаль, не ўсіх. Цяпер з'явілася нямала людзей, для якіх нават максімальны штраф не ўяўляе нічога страшнага. Так, да прыкладу, ужо сёння мною быў аштрафаваны 25-гадовы М.Свірскі, які вырашыў памыць сваю машыну з дапамогай хімічных сродкаў у зялёнай зоне вуліцы Заслаўскай. Аказваецца, такіх парушэнняў у яго было ўжо сем!

І калі мы ўжо закранулі тэму мыцця машын, хацелася б сказаць колькі слоў пра такую распаўсюджаную з'яву, як мыццё машын дзецьмі і падлеткамі. Гэта зусім не бясшкодны і бяспечны занятак, як мяркуюць некаторыя. На вуліцы Матусевіча, напрыклад, ёсць насосная станцыя. Дзеці бяруць гарачую ваду з каналізацыйных калодзежаў, але ці доўга ўпасці ў такі калодзеж з кіпнем? Я ўжо не кажу пра тое, што дзеці мыюць машыны проста на вуліцы, дзе рухаецца транспарт. Мы караем кіроўцаў, якія гэта арганізоўваюць, папярэджваем бацькоў, але без належнага выніку, а між тым, зусім нядаўна на той самай вуліцы Матусевіча 17-гадовы В. пасля мыцця чужой машыны перабягаў вуліцу з мэтай атрымаць грошы з "кліента" і трапіў пад колы ВАЗ-32109, які "пракаціў" небараку на сваім капоце амаль 15 метраў.

**— Алег Іванавіч, на пачатку нашай размовы Вы ўзгадалі пра кінутыя машыны. Які іхні далейшы лёс?**

— Мы маем у нашым аддзеле спецыяльную цялежку для эвакуацыі легкавога аўтатранспарту, з дапамогай якой мы адвозім на штрафную пляцоўку машыны, што кінуты без нагляду альбо замінаюць руху. Паводле нашых дадзеных, нам трэба прыбраць яшчэ 98 аўтамабіляў, а працуе ў нас на гэтай рабоце толькі 5 чалавек. Для такога аб'ёму працы гэтага яўна недастаткова. Добра было б мець машыну-эвакуатар, але пра гэта даводзіцца толькі марыць.

Хаця адвезці машыну на штрафную пляцоўку яшчэ не азначае, што праблема вырашана. Справа ў тым, што пляцоўка разлічана на 70 аўтамабіляў, а там ужо цяпер больш за сотню. Прычым некаторыя знаходзяцца там з 1993 года!

Вось і стаяць яны, гаротныя, чакаючы, пакуль знойдуцца гаспадары, чакаюць, іржавеюць... А гаспадары не вельмі спяшаюцца трапіць нам на вочы: ці то таму, што машына знаходзіцца ў вышуку (а такіх у нас 12), ці таму, што не жадаюць аплачваць нашыя выдаткі на бензін, дастаўку і стаянку на пляцоўцы, заяўляючы наступнае: "Хай машына там згніе, але распіску ў тым, што я ад яе адмаўляюся, вы не атрымаеце..."

На жаль, муніцыпальныя ўлады не могуць вырашыць пытанне аб тым, што рабіць у такіх выпадках. Ды і пытанне наконт машын, ад якіх адмовіліся ўладальнікі, таксама не з простых. Каб прызнаць іхнюю нічыйнасць, трэба сабраць безліч папер і даведак і накіраваць адпаведнае хадайніцтва ў суд. Але і нават пасля рашэння суда мы не маем права ні рэалізаваць машыну, ні здаць на металалом.

Цяпер пра металалом. У некаторых месцах, да прыкладу, у гаражных кааператывах на вуліцах П.Глебкі, Матусевіча, у Кунцаўшчыне і Масюкоўшчыне ўзнікаюць сапраўдныя сметніцы са старога жалезза і запчастак, да якіх нікому няма справы. Толькі пасля таго, як накладзеш штраф на адпаведную службовую асобу (прычым неаднаразова), дырэктары робяць неабходныя крокі па добраўпарадкаванні забруджанай тэрыторыі.

**— Якімі яшчэ сродкамі Вы змагаецеся за чысціню навакольнага асяроддзя і якія вынікі гэтай барацьбы?**

— За мінулы год па парушэнні, прадугледжаныя артыкуламі 130 і 143-м, на карысць дзяржавы пералічана больш за 150 мільёнаў рублёў, а за тры месяцы сёлета — 78 мільёнаў.

З 1 па 30 чэрвеня ў горадзе праводзіцца аперацыя "Чыстае паветра", падчас якой будзе выяўляцца аўтатранспарт і абсталяванне, што забруджваюць навакольнае асяроддзе таксічнымі рэчывамі і газамі звыш прадугледжаных нормаў. Хацелася б у сувязі з гэтым звярнуцца да аўтаўладальнікаў з парадай — праверце яшчэ раз свае аўтамабілі. Не забывайцеся на тое, што ў гэтым навакольным асяроддзі трэба будзе жыць вашым дзецям і ўнукам.

**Са старшым інспектарам гутарыў**
**Уладзімір МІХАЛЬЦОЎ**

КУЛЬТУРА
ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991 года

Заснавальнік — **Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**

Галоўны рэдактар — **Людміла КРУШЫНСКАЯ**

Рэдакцыйная калегія:
**Валянцін АКУДОВІЧ** (першы намеснік галоўнага рэдактара), **Арсен ВАНІЦКІ**, **Андрэй ВАШКЕВІЧ** (намеснік галоўнага рэдактара — адказны сакратар), **Валерый ГЕДРОЙЦ**, **Уладзімір ГІЛЕП**, **Валянцін ЕЛІЗАР'ЕЎ**, **Сяргей ЗАКОННІКАЎ**, **Вольга ІПАТАВА** (рэдактар аддзела), **Ігар КЛОКАЎ** (рэдактар аддзела), **Анатоль КУДРАВЕЦ**, **Мікола КУПАВА**, **Алена ПІСЬМЯНКОВА** (рэдактар аддзела), **Міхаіл ПТАШУК**, **Алег ТРУСАЎ**, **Юрый ЦВЯТКОЎ**, **Васіль ШАРАНГОВІЧ**

Рэдакцыя:
Рэдактары аддзелаў — **Жанна ВАСАНСКАЯ**, **Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**, **Барыс КРЭПАК**
Спецкарэспандэнты: **Міхась БАШУРА**, **Зміцер ВІШНЁЎ**, **Сяргей МІНСКЕВІЧ**
Загадчык аддзела фотаілюстрацый — **Генадзь ЖЫНКОЎ**
Мастацкі рэдактар — **Наталля ОВАД**
Карэктар — **Мая КЛІМКОВІЧ**

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

**Адрас рэдакцыі:**
220029, МІНСК (МЕНСК), вул. ЧЫЧэРЫНА, 1.
Тэлефон: (017) 276-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.

Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.

Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.



Фармат А3.
Індэкс 63875.
Агульны наклад 3446.

Падпісана ў свет 05.06.97. у 16.00.
Замова 3274

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.

**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**
**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**